ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

# ЛіМ ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

26 СТУДЗЕНЯ 1996 г. № 4 (3828) Кошт 2 500 руб.

## ФРАНЦУЗСКАЯ ХВАРОБА Ў ЧАСОПІСЕ ПАНА ГЕДРОЙЦА

***Уладзімір КОНАН: "Гэта ў Францыі ўсе жыхары называюцца французамі, хоць не заўсёды этнічнымі, карэннымі. Бо з чаго пачынае польскі, расійскі ці іншы эмігрант у Францыі? З таго, што інтэгруецца ў французскім грамадстве, вывучае яго мову, дапасоўваецца да французскага менталітэту... Між тым у Беларусі апошнія стагоддзі адбывалася нешта зусім іншае, незразумелае еўрапейскаму чалавеку з нармальнай прававой свядомасцю".***

**5**

## ТАМ, ПА-ЗА ШЫБАЙ...

***Фрэскі Барыса ПЯТРОВІЧА***

**8—9**

## НОВЫЯ ВЕРШЫ

***Віктара ШНІПА***

**12**

## ГЛЫТОК ІЗРАІЛЯ

***Уладзімір МЕХАЎ: "Дзяржава, насельніцтва якой складаецца ў вялікай долі з імігрантаў, — заўсёды плавільны кацёл. Пераплаўляюцца ў адно, зусім знатуралізоўваюцца, сапраўды, не дзеці нават імігрантаў — унукі".***

**14—15**

## "У ІМЯ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ І ТЭАТРА"

***Максім ГАРЭЦКІ: "Я знаю, что Балахович и особенно Адамович никогда не простят Олехновичу, они готовы на всякую провокацию... и кто знает, где корни теперешних страданий этого человека".***

**16**



*Бадай, не знойдзеш у нашай дзяржаве чалавека, які б не ведаў Івана Пятровіча Шамякіна... Яшчэ б! Сапраўды народным пісьменнікам ён стаў не толькі паводле афіцыйнага прызнання, а і дзякуючы той агромністай папулярнасці, якую набыў сваімі высокамастацкімі творамі. Яго кнігі выдаваліся (улічваючы перавыданні, выбраныя творы, зборы твораў, а таксама пераклады на замежныя мовы) больш 120 разоў!*

*Пяром Івана Пятровіча створаны сапраўдны летапіс нашай сучаснасці. Перачытваючы яго раманы, аповесці, апавяданні, драматычныя творы, заглыбляючыся ў публіцыстыку, быццам перагортваеш асноўныя старонкі жыцця нашага грамадства на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў. Гэта і кастрычніцкія падзеі, і грамадзянская вайна, і сумнавядомыя трыццатыя гады. Але гэта ж — і пасляваенны час, а таксама наш, сённяшні дзень. А яшчэ І.Шамякін узяўся за асэнсаванне падзей сівой даўніны, аб чым засведчыў яго новы раман "Вялікая княгіня".*

*Патрыярх нацыянальнай літаратуры па-ранейшаму жыве новымі мастацкімі задумамі, працуе плённа, мэтанакіравана, як і ў маладосці. Нават і не верыцца, што пісьменніку 30 студзеня спаўняецца 75 гадоў. Ды хіба сапраўдны талент можа старэць?! Хіба мае права прызнаны творца на адпачынак?!*

*З днём нараджэння, дарагі Іван Пятровіч! Доўгіх і доўгіх вёсен Вам! Новых і новых твораў! Яны патрэбны нам, як патрэбны нам і Вы — сумленнейшы чалавек, прызнаны майстар слова.*

***Не можам не падзяліцца радасцю, што ў лімаўскай калонкі "Кола дзён" з'явіўся стрыечны брат — агляд "7 дней: лица и события" ў "Народнай газеце". Прызнацца, пасля гэтага і нам дыхаць стала трошкі лягчэй, бо, пэўна, больш не трэба будзе перад некім апраўдвацца за тое, што быццам бы "КД" занадта зласлівае, з'едлівае, здзеклівае... у адносінах да пэўных асоб. Мяркуючы па першых публікацыях, "7 дням..." зубастасці таксама не пазычаць. Як і інтэлігентнасці, прафесійнасці... Адно хіба: не варта было паўтараць нашую памылку і адразу рабіць "7 дней..." аглядам не ананімным, а аўтарскім, па прыкладзе "Комсомольской правды". І ўсё ж — у добры шлях, "7 дней...", доўгіх табе гадоў жыцця.***

### ГАВАРЫЛЬНЯ ТЫДНЯ

Дзяржавы Балтыі — Літва, Латвія, Эстонія — ад пачатку адмовіліся ўдзельнічаць у настальгічных гульнях у СНД і зрабілі мудра. Пяты год назіраем мы, як кіраўнікі астатніх 12 краін былога СССР, нібы тая лебедзь, рак і шчупак, намагаюцца зрушыць з месца воз, аднак нічога ў іх не атрымліваецца. Даўно час зразумець, што як ні складвай асобныя кавалачкі разбітага люстэрка, свае ранейшыя функцыі яно ўсё роўна выконваць не будзе, тым больш, што адсутнічаюць асобныя часткі яго. Кожнай дзяржаве трэба адбудоўваць сваё самастойнае жыццё ў цесным супрацоўніцтве з іншымі. І толькі. Аднак і на апошнім саміце кіраўнікоў дзяржаў СНД гучалі тыя ж, набіўшыя аскоміну, тэрміны: "калектыўная бяспека", "мытны саюз", "добраахвотная інтэграцыя"... Адно было новым: па словах Б. Ельцына, кіраўнікі дзяржаў "все в один голос хором" заявілі, што пытанне аб аднаўленні СССР "не стоит у нас в государствах". Дык, можа, час прызнацца сабе, што адпала і неабходнасць "добраахвотнай інтэграцыі дзяржаў у СНД"?

### КРУТАСЦЬ ТЫДНЯ

На чарговым партгасактыве адбыўся цікавы і паказальны эпізод: проста з трыбуны прэзідэнт адправіў у адстаўку міністра прамысловасці Беларусі У. Куранкова. Тым самым прэзідэнт даказаў, што зняцці з пасад іншых міністраў з дапамогай указаў былі толькі кветачкамі, і яшчэ раз паказаў, хто ў доме паўнаўладны гаспадар.

### ДЗІВА ТЫДНЯ

Хто б мог падумаць, што камуністы, якія так многа зрабілі дзеля таго, каб адбыўся на Беларусі ганебны рэферэндум, паўстануць на абарону беларускай мовы... І тым не менш — дэпутат В. Шчукін зрабіў дэпутацкі запыт прэм'ер-міністру М. Чыгіру наконт сітуацыі, што склалася апошнім часам на Беларусі ў адносінах да беларускай мовы. Цяжка пакуль адназначна ацаніць выступленне дэпутата ад фракцыі камуністаў. Вельмі хацелася б верыць у шчырасць і сапраўдную заклапочанасць. Вельмі. І не думаць пра нейкія палітычныя гульні вакол святога.

### ПЫТАННЕЙКІ ТЫДНЯ

Па ўласным жаданні пакінуў пасаду старшыні Цэнтравыбаркама А. Абрамовіч. Шчыра прызнацца, апошнім часам нельга было без шкадавання назіраць за ім на экране тэлевізара. Асабліва напрыканцы выбараў і на пачатку сесіі ВС. Нагадваў ён, цяпер можна параўнаць з дакладнасцю, Ельцына падчас падзей у Першамайскім: гаварыў быццам бы не сваімі словамі, даказваў тое, у што і сам не верыў... Адначасова з навінай пра добраахвотную адстаўку, праўда, прыйшла і інфармацыя пра хуткае прызначэнне А. Абрамовіча намеснікам кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта. Калі гэта павышэнне, то за якія заслугі? Калі гэта адстаўка, то чаму з павышэннем? Калі гэта адстаўка з павышэннем, то ці надоўга?

### СКАНДАЛЬЧЫК ТЫДНЯ

На мінулым тыдні нагадаў пра сябе адстаўны міністр унутраных спраў Ю. Захаранка. Ён звярнуўся да Старшыні ВС Беларусі С. Шарэцкага з просьбай вынесці на разгляд сесіі пытанне аб неканстытуцыйнасці вызвалення яго ад пасады і даць яму магчымасць выступаць перад дэпутатамі. Ю. Захаранка звярнуўся таксама ў Пракуратуру Беларусі з заявай аб узбуджэнні крымінальнай справы супраць грамадзяніна А. Лукашэнкі і начальніка ягонай асабістай службы бяспекі Ю. Барадзіча па факту ўзброенага захопу будынка МУС. Аднак намеснік генпракурора В. Кандрацьеў адмовіўся заводзіць крымінальную справу на прэзідэнта і ягонага ахоўніка. Адначасова разгараецца скандал і вакол сцвярджэння прэзідэнта, што старшыня Канстытуцыйнага суда В. Ціхіня, былы спікер парламента М. Грыб і той жа Ю. Захаранка быццам бы рыхтавалі супраць кіраўніка дзяржавы нейкі "заговор". Захаранка так пракаментаваў агенцтву СІМ тое паведамленне: "Лічу гэтае выказванне праявай запалення мазгоў і яго ініцыятарам раю прайсці медыцынскае абследаванне".

### ТРЫВОГА ТЫДНЯ

Як паведамілі на экстранай прэс-канферэнцыі эканамічныя эксперты БНФ, "урад Лукашэнкі падпісаў два пагадненні з рознымі расійскімі кампаніямі, згодна з якімі 51 працэнт акцый Мазырскага нафтаперапрацоўчага завода перайшоў расійскай кампаніі "Слаўнафта", а 74 працэнты акцый аб'яднання "Нафтан" уключаючы Наваполацкі НПЗ і прадпрыемствы нафтахіміі, пяройдуць расійскім кампаніям "Лукойл" і "Юкас"..." Тым самым, паводле меркавання экспертаў, эканамічнай бяспецы Беларусі нанесены страты на мільярды долараў, больш таго, Расія хоча не мага хутчэй усталяваць манаполію на паліўна-энергетычным рынку нашай краіны і поўнасцю авалодаць транзітнай тэрыторыяй. Паведамляючы пра гэта, "Народная газета" паабяцала прадаставіць магчымасць другому боку — ураду — выступіць на старонках газеты з тлумачэннем сітуацыі. Другі бок пакуль маўчыць.

### ЛІЧБА ТЫДНЯ

3151 самазабойства адбылося на Беларусі ў мінулым годзе. Старыя, маладыя і нават дзеці развітваюцца з гэтым жыццём. Па розных прычынах. Аднак не апошняя, пэўна, — эканамічны крызіс, беспрацоўе, няверʼе, што ў бліжэйшым час нешта зменіцца.



З нагоды

# "ШИРОКА СТРАНА МОЯ РОДНАЯ..."

***"Героем дня" на чарговым "саміце" СНД быў не выканаўчы сакратар Садружнасці Іван Каратчэня і нават не Барыс Ельцын, якога астатнія прэзідэнты зноў абралі на пасаду першага сярод нібыта роўных. "Героя дня" не было ў зале і кулуарах, але яго прысутнасць адчувалася паўсюль. Я гавару пра Джахара Дудаева, прэзідэнта Чачэнскай Рэспублікі.***

Як бы ні спрабавалі прадставіць Дудаева гэткім авантурыстам і крымінальнікам, як бы ні спрабавалі збіць маштаб гэтай асобы — ён сёння адзін з галоўных апанентаў Ельцына ўнутры Расійскай Федэрацыі, а калі браць да ўвагі міжнародны рэзананс Чачэнскага крызісу, дык — і на міжнароднай арэне. Я ўхіляюся ад маральнай і палітычнай ацэнак таго, што адбылося днямі ў дагестанскай вёсцы і турэцкім порце. Вайна — гэта не рыцарскі турнір. І ў мірны час, пры наяўнасці паліцыі, пракуратуры, турмы і грамадскай маралі, кожны дзень здараецца такое, што страшна чуць і пераказваць. Што тады чакаць ад людзей, калі ў руках зброя, а "вайна ўсё спіша"? Дзе мяжа, за якой неабходная абарона пераходзіць у несправакаваны гвалт? Як адрозніць "сепаратызм" ад "нацыянальна-вызваленчай барацьбы"?

Досыць доўга спробы тых ці іншых палітыкаў у краінах СНД абмяркоўваць чачэнскую праблему і рабіць высновы з дзеянняў Масквы выклікалі ў Крамлі нервовую рэакцыю: не ваша, маўляў, справа унутраная праблема Расіі, самі разбяромся. І вось прэзідэнт Расійскай Федэрацыі быў вымушаны гаварыць пра Чачню на "саміце" СНД — не інакш, як кажуць, нешта здохла за вялікай гарою...

Менавіта Чачэнскі крызіс вызначыў сцэнарый маскоўскай сустрэчы кіраўнікоў краін Садружнасці. Дадам, што гэты крызіс стаў яшчэ і тэмай перамоў паміж Масквою і НАТО. З гэтага трэба зрабіць выснову, што Масква ўжо не здольная не толькі вайсковай сілай абараніць свае інтарэсы ў "блізкім замежжы", але і справіцца з "сепаратыстамі" ў межах Расійскай Федэрацыі. Калі толькі ў чачэнскіх падзеях няма невядомага грамадству падтэксту. Дзіўна гучыць афіцыйнае паведамленне, што шэсцьдзесят (ці нават болей?..) баевікоў са зброяй і заложнікамі "прасачыліся" сярод белага дня праз шчыльную аблогу, праз кардоны федэральных войск. Мо камусьці з генералаў расійскай палітыкі трэба, каб полымя не затухла да, скажам, прэзідэнцкіх выбараў? Каб потым адным махам вырашыць праблему...

Галоўная тэма на "саміце" была вайсковая. Ельцын ледзь рукі не выкручваў калегам па СНД на прадмет стварэння міжнацыянальных узброеных фарміраванняў для "гарачых кропак" на тэрыторыі краін Садружнасці. Можна не сумнявацца, што нейтральнай (згодна Канстытуцыі) Беларусі адводзіцца ў гэтай праграме выключная роля. Нездарма ў часе нядаўняга візіту ў Беларусь міністр Грачоў радасна сцвярджаў, што Беларусь і Расія гатовы да аб'яднання сваіх Узброеных Сіл.

Другой мэтай расійскай знешняй палітыкі з'яўляецца пашырэнне мытнага саюза і прывязка такім чынам "блізкага замежжа" да расійскай эканомікі. Ужо сёння ў гэты саюз пад эгідай Масквы ўваходзяць Беларусь і Казахстан, у хуткім часе плануецца далучэнне да яго Кыргызстана. Дыскусіі па пытанні, наколькі выгадны Беларусі мытны саюз, у нашай краіне не вялося. Прэзідэнт прапанаваў, Вярхоўны Савет ратыфікаваў... Тым справа нібыта і скончылася, хоць вельмі хутка сталі відавочнымі для нашых вытворцаў і гандляроў негатыўныя аспекты агульнай з Расіяй мытні. Проста так яшчэ ад Кебіча павялося, што ўсё, што датычыць "інтэграцыі" з Масквою, на афіцыйным узроўні трактуецца як справа вельмі карысная, для Рэспублікі Беларусь неабходная. Страты ніхто не падлічвае...

Я не выключаю, што ў мытным саюзе ёсць для нас і станоўчыя моманты; але ўвогуле сітуацыя, калі Беларусь знаходзіцца ў адной эканамічнай прасторы з Сярэдняй Азіяй, а на нашых варотах у Еўропу вісіць вялізны расійскі замок — абсурдная. Я не супраць добрых стасункаў з казахамі і кыргызамі, але не за кошт "жалезнай заслоны" на мяжы з Польшчай, Жамойцю, Латвіяй. Хто мы, урэшце? Цэнтр Еўропы альбо ўскраіна Азіі?

Зразумела, што свой геапалітычны патэнцыял Беларусь здолее цалкам скарыстаць толькі ў тым выпадку, калі Еўропа будзе не толькі на захад ад Берасця, але і на ўсход ад Смаленска. Інакш кажучы, пакуль Расія не стане Еўропай. Але ж і быць на сваёй зямлі заложнікамі імперскіх амбіцый непрадказальнага суседа ўсё роўна не варта.

Сам Назарбаеў, аўтар ідэі Еўразійскага Саюза на постсавецкай прасторы, разглядае СНД і гіпатэтычны ЕАС толькі як сродак умацавання з дапамогаю колішніх "братніх рэспублік" суверэнітэту Казахстана. Нездарма ён прапанаваў на Маскоўскай сустрэчы прыняць спецыяльны дакумент, у якім бы кіраўнікі краін СНД адмежаваліся ад заяў некаторых палітыкаў пра нібыта маючае адбыцца адраджэнне СССР. Хто запярэчыў Назарбаеву? Правільна, наш прэзідэнт сп. Лукашэнка. Ён сказаў, што "народ нас не поймет". Зразумець Аляксандра Рыгоравіча няцяжка: подпіс пад такім дакументам пазбавіў бы яго галоўнага козыра ў ягонай папулісцкай гульні ў Беларусі, а ў большай ступені — у Расіі.

А ці патрэбна нам увогуле тая Садружнасць? Наш удзел у СНД, можа, і меў бы які сэнс, калі б Мінск, дзе Садружнасць нарадзілася, сапраўды стаў бы "Брусэлем Усходняй Еўропы" (як пісалі журналісты ў часы пасляСССРаўскай эйфарыі — нашы, не маскоўскія, тыя з самага пачатку ставіліся з іроніяй да словаспалучэння "Мінск — сталіца СНД"). Але ў Мінску на СНДэшныя сходкі збіраюцца другарадныя міністры, а сур'ёзныя справы вырашаюцца па-ранейшаму ў Маскве.

Ёсць і іншыя прычыны разглядаць СНД у крытычным святле. Дакументы за подпісамі ўсіх кіраўнікоў краін СНД так і застаюцца ў большасці дэкларацыямі аб намерах. Працуюць толькі двухбаковыя дамовы. І тым не менш фармальна Садружнасць існуе і, больш за тое, усё болей і болей абрастае бюракратычнымі структурамі. СНД не можа доўга заставацца тым, чым ёсць сёння. Садружнасць, створаная для "цывілізаванага разводу", павінна альбо знікнуць увогуле, альбо стаць базай адраджэння СССР (ці пашырэння Расійскай імперыі — па сутнасці гэта адно і тое ж). Тым, хто ўсё яшчэ марыць пра "всесоюзную" кар'еру, СНД патрэбна. Але для нашай краіны найлепшае — суверэнітэт і нейтралітэт у іх класічным разуменні. Лепей адмовіцца ад "гонару" быць "сталіцай СНД", чым, не дай Бог, аплачваць такі "гонар" сваёй крывёю ў Чачні, Дагестане, Абхазіі, ды ці мала дзе яшчэ. Бо "широка страна моя родная"... — як пяецца ў вядомай савецкай песні.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

Юбілеі

# "...ПРЭЦЭДЭНТ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ АДУКАЦЫІ"

## 19 СТУДЗЕНЯ БЕЛАРУСКІ ЛІЦЭЙ АДСВЯТКАВАЎ СВАЕ ПЯТЫЯ ЎГОДКІ

***"Мы — новыя беларусы...", — прагучала са сцэны Рускага тэатра з вуснаў ягоных навучэнцаў. А ўслед — перасцярога: "Не блытаць з "новымі рускімі"..." Зблытаць не даў бы... разгул інтэлекту, які мусіў трымацца за адметную, я б сказала — пародную выхаванасць. Яны, ліцэісты, напраўду — новыя. Ужо паводле духу свайго...***

А пятыя ўгодкі ліцэй БГАКЦ адзначаў... напрыклад, п'есай у класіцысцкім духу, — з яе атрымалася ўсмешлівая пастаноўка, дзе Божа ды Чорт радзіліся пра "людзей, якія нават у раі знойдуць, дзе пакутаваць". Або — дакладным, граматным... канканам! Або — відовішчам, дзе самі алімпійскія багі спрыяюць будучыні нацыянальнай беларускай адукацыі і жадаюць Беларускаму ліцэю толькі самых адметных навучэнцаў: "Каб заўважаў цябе не кожны, а толькі лепшы да цябе..." Апраткі са спектакля "Амфітрыён", пазычаныя Рускім тэатрам, саслужылі сваю самую найвысакародную сцэнічную службу на сцёгнах ды плячах ліцэістаў. Самым сур'ёзным на свяце быў і мусіў заставацца дырэктар (так хочацца напісаць "і мастацкі кіраўнік") ліцэя Уладзімір Колас. "Мы хацелі стварыць еўрапейскую навучальную ўстанову, — абвясціў ён. — Каб у яе ішлі не пад прымусам, не з кан'юнктурных меркаванняў, а з-за ведаў. І — стварылі. Таксама, як і канцэпцыю нацыянальнай адукацыі. І мадэль навучальнай установы новага тыпу. Мы маем водгукі з Еўропы. (У. Колас адразу ж зачытаў гэтыя водгукі — пра навучэнцаў ліцэя, што працягваюць заняткі ў Італіі, Нарвегіі... — Ж.Л.) Нам удзячныя за нашых дзяцей". А ўслед за У. Коласам не адзін з выступоўцаў назваў ліцэй "прэцэдэнтам нацыянальнай адукацыі". Той, якая дае новага... кштaлту адукаванага чалавека. З веданнем некалькіх моў. З падрыхтаванасцю да навучання ў добраму тузіну спецыяльнасцяў у вышэйшых навучальных установах. "Было некалькі каласкоў, а цяпер — магутныя каласы", — мовіў Алесь Смолік, цяпер — выкладчык універсітэта культуры, а ў мінулым — адзін з тых, каму шчыра дзякавалі на вечарыне за "стаянне ля вытокаў". Або — за шчыраванне ля іх самых. Як і спадарам Гілевічу, Трусаву, Шушкевічу, Кебічу... Называлі кожнага. А на заканчэнне прагучала лічба 398. (Столькі навучэнцаў выпрабавалі сябе Беларускім ліцэем). Яе перастрэла лічба 111. Столькі чалавек зрабіліся ліцэйскімі выпускнікамі.

Сто адзінаццаць. Сто адзінаццаць магутных каласоў, што самімі сабою стварылі прэцэдэнт нацыянальнай адукацыі. Які ні з чым не зблытаеш.

**Ж. Л.**

*ФРАГМЕНТЫ*

# У КНЯСТВЕ ЛІТОЎСКІМ НЕ ЖЫЎ!

***Нашы дзяржаўныя чыноўнікі, найперш самага высокага рангу, вельмі крыўдуюць на газетчыкаў: маўляў, занадта прыдзіраюцца, занадта старанна і пільна, бы рэнтгенам, прасвечваюць іхнія выказванні і ўчынкі. Крыўдуюць, замест таго, каб — не падстаўляцца, памятаць прымаўкі, накшталт: "Слова не верабей, вылеціць — не спаймаеш", ці: "Што напісана пёркам, не счэшаш і сякеркай"...***

***Крыўдуюць, ведаем, і на нас, лімаўцаў, хоць, дальбог, мы стараемся не даваць для крыўд аніякіх падстаў. Часцей за ўсё — проста цытуем таго ці іншага спадара, адоранага ці надзеленага высокай пасадай.***

***Вось і сёння. Змяшчаем цытаты з газетных інтэрв'ю трох нашых дзяржаўных дзеячаў. Чаму змяшчаем? Ды таму, каб яшчэ раз звярнуць увагу нашых чытачоў на тое, якія яны, аказваецца, мудрыя, нашы дзяржаўныя мужы, як яны разумна і глыбока разважаюць, як цвяроза і прынцыпова, зыходзячы сапраўды з дзяржаўных інтарэсаў, ацэньваюць некаторыя рэаліі нашага жыцця.***

***Зрэшты, цытаты гавораць самі за сябе...***

●

— Вернемся да ўласна тэлевізійных праблем. Скажыце, чаму так шмат памылак стала ў дыктараў, вядучых?

— Гэта балючае пытанне, мы займаемся ім, запрашаем спецыялістаў, арганізоўваем курсы беларускай мовы. Нават пад пагрозай звальнення прымушаем вучыцца. Проста сорамна. Я ўжо кажу, калі не можаце, дык давайце на рускай мове некаторыя перадачы весці. Але ж мы не хочам так, нашы перадачы павінны быць на беларускай мове.

— Скажыце, а якая моўная палітыка ў вас вядзецца пасля рэферэндуму? Уведзена двухмоўе, калі меркаваць па тым, што частка перадач стала сапраўды рускамоўнай?

— Двухмоўе і раней было, яно склалася ў практыцы тэлебачання. Потым ужо адбыўся рэферэндум... На гэтым этапе нам патрэбны перш за ўсё добрыя перадачы, змест, а ўжо пасля мы гэтаму нададзім беларускую форму. Наконт двухмоўя нам ніхто ніякіх пастаноў, указаў ці заданняў не даваў. Журналісты могуць рабіць перадачы на рускай, на беларускай мове, але каб яна была чыстая, каб не было пытанняў на беларускай, а адказаў — на рускай мове, ці мяшанай мове, ці памылак...

*З інтэрв'ю старшыні Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі Р.Кісяля карэспандэнту "Звязды", 6 студзеня 1996 г.*

●

— Поўнасцю падзяляю думкі кіраўніка дзяржавы, што дзесяць членаў Канстытуцыйнага суда, не надзеленых даверам усяго народа, не могуць і не павінны вяршыць лёс краіны. На ўсенародных выбарах Прэзідэнта людзі вызначылі чалавека, якому давяраюць уладу. І Канстытуцыйнаму суду трэба прыслухоўвацца да думкі кіраўніка дзяржавы...

Канфлікту з Канстытуцыйным судом у будучым быць не павінна. Цяперашні канфлікт узнік у выніку абвастрэння адносін Прэзідэнта і старога парламента.

Калі б у той час Прэзідэнт не прымаў рашучых мер, у прыватнасці ўказаў, якія сталі падставай для судовых разбораў, мы, у тым ліку і з-за недасканаласці заканадаўства, наогул разбалансавалі б усё грамадства. Магчыма, указы ў нейкай нязначнай меры, у выніку магчымасці дваякага трактавання законаў, і супярэчылі законам, але, ведаючы, як гэтыя законы прымаліся, Прэзідэнт павінен быў умешвацца. Ва ўмовах васьмімесячнай адсутнасці парламента ён хоць неяк заштукоўваў прарэхі заканадаўства. Толькі дзякуючы гэтаму мы змаглі кіраваць сітуацыяй.

*З інтэрв'ю віцэ-прэм'ера Л. Сініцына карэспандэнту "Звязды", 11 студзеня 1996 г.*

●

— З сімволікай, вернутай пасля майскага рэферэндуму, асабіста ў мяне звязаны пэўныя эмацыянальныя адносіны. Я служыў у арміі і шчыра верыў, што раблю патрэбную справу, што нашы ракетныя войскі — гэта шчыт Радзімы, што мы гатовы пераадолець любую небяспеку. Сімволіка, пад эгідай якой служыў, стала састаўной часткай майго "я"... Бел-чырвона-белы сцяг і "Пагоню" я прымаў (яна была зацверджана Вярхоўным Саветам), але ніякіх эмацыянальных адносін у мяне з ёй звязана не было: я не жыў у княстве Літоўскім.

*З інтэрв'ю першага намесніка міністра замежных спраў Беларусі В. Цэпкала карэспандэнту "Звязды", 13 студзеня 1996 г.*

Выставы

# АБСЯГ ЗРОБЛЕНАГА ЗА ГАДЫ...

Кажуць, што Міхась Раманюк аб'ездзіў усю Беларусь уздоўж і ўпапярок. Таму і сабраў такую багатую калекцыю беларускага народнага адзення і краязнаўчых фотаздымкаў. І першы распачаў сістэматызацыю касцюмаў па рэгіёнах і іх мастацка-графічную рэканструкцыю. Далей — болей. Выдаў шэраг кніг па беларускім нацыянальным касцюме, надрукаваў у Беларускай Энцыклапедыі практычна ўвесь абсяг тэматыкі, звязанай з беларускім адзеннем і вырабам мастацкіх тканін, абгрунтаваў і ўвёў ва ўжытак блокі тэрміналогіі, даў выявы гэтага мастацтва, што набылі характар нарматыўных узораў, стварыў сцэнічныя касцюмы — для Дзяржаўнага акадэмічнага народнага хору імя Г.Цітовіча і некаторых самадзейных калектываў. Графічныя кампазіцыі, габелены, эскізы тэатральных касцюмаў Міхася Раманюка знаходзяцца ў зборах Нацыянальнага мастацкага музея РБ, Музея дэкаратыўнага мастацтва Расіі (Масква), у іншых музеях, а таксама ў прыватных калекцыях ЗША, Канады, Італіі, Францыі, Нідэрландаў.

У Нацыянальным мастацкім музеі Міхась Раманюк, выкладчык, прафесар, загадчык кафедры Беларускай акадэміі мастацтваў, прадставіў сваю персанальную выставу — абсяг зробленага ім за многія гады. Надзвычай цікавая па матэрыяле, вытанчаная па экспазіцыйным падыходзе, яна сталася першай сапраўднай мастацкай выставай на этнаграфічным матэрыяле. А самога матэрыялу — багата. Зацікавяць і карта гісторыка-этнаграфічных рэгіёнаў Беларусі, упершыню ілюстраваная традыцыйнымі народнымі строямі, і мастацка-графічныя рэканструкцыі нацыянальных касцюмаў, і мастацкія фотаздымкі, выкананыя Раманюком падчас этнаграфічных вандровак 1968—1995 гадоў, паштоўкі "Беларускі нацыянальны касцюм", плакаты.

**Н. К.**

*Здымак зроблены падчас адкрыцця выставы. Зроблены ў момант, калі М. РАМАНЮКА (ён справа) віншаваў З. ПАЗНЯК з жонкаю.*

*Фота Віт. АМІНАВА*

Варункі

# "Я — НЕПРЫКМЕТНЫ, ШЭРЫ ЧАЛАВЕК"?

Абсалютная большасць беларусаў не настроеная супраць сваёй мовы. Чаму ж тады так хутка і масава яны адмаўляюцца ад яе? "Я — непрыкметны, шэры чалавек", — пісаў пра сябе Максім Багдановіч. Істотная рыса нацыянальнага характару беларуса — быць такім, як і ўсе, не высоўвацца.

Падаецца, што гэтая рыса належыць усім славянам. Не ў прыклад італьянцам, грэкам ці немцам, эміграцыя славянскіх нацыяў не перажывае далей за трэцяе пакаленне, асімілюецца.

Грунт для масавага супраціву асіміляцыі дае хіба што свая, родная зямля. Паглядзім на чэхаў, славакаў, палякаў, балгар — выстаялі, адрадзіліся, нягледзячы на шматвекавы прыгнёт.

Паўсюдна размаўляць па-чэшску, браць шлюб толькі з чэшкаю ці чэхам, вучыць дзяцей толькі ў чэшскай школе — перад пагрозаю канчатковае асіміляцыі гэтыя правілы ведаў кожны чэх яшчэ сто гадоў таму. "У перашкодах дух расце" — круціцца ў галаве нечы радок.

Пераадолець дыскамфорт з-за іншае, чым у большасці, моўнае пазіцыі можна, калі добра ўсвядоміць і ніколі не забываць, х т о і на ч ы ё й зямлі жыве. У нас з нашай беларускай мовай ёсць натуральная перавага і мы не павінныя яе хаваць.

Мяне асабіста натхняюць прыклады іншых. Так, заўсёды згадваю Міколу Стому — звышінтэлігентнага, далікатнага чалавека, які, як кажуць, мухі ніколі не пакрыўдзіць.

Андрэй Федарэнка распавядаў, што бачыў неяк таго ў паліклініцы, калі Мікола спрабаваў штосьці даведацца ў рэгістраторкі. Натуральна, па-беларуску. Тая незадаволена крывілася, бясконца перапытваючы: "Что? Что?" Мікола, тым не менш, не здаваўся і ціхенька, але настойліва спрабаваў дабіцца ў яе патрэбнага. "Я так быў здзівіўся, — апавядаў Андрэй, — тая грыміць над ім сваім "что-что", а ён усё роўна — па-беларуску".

У мяне дык у такіх выпадках не заўсёды стае цярпення. Не так даўно ледзь не зароў на ўсю краму, паўтараючы па трэцяму разу касірцы: "Адзінаццаць!", якая ўпарта, аўтаматычна паўтарала за мною, хочучы прабіць: "Двенадцать". Аж сэрца сціснула. Добра, што хоць яна пасміхнулася, калі зразумела, чаго я ад яе хачу.

**Алесь БЯЛЯЦКІ**

# ДА КАНТАКТАЎ ЗАПРАШАЕ... КНІГА

***Колішнія сувязі — як паміж дзяржавамі, так і ў больш вузкім паняцці, — як вядома, даўно парушаны. І той, хто спадзяецца, што іх можна аднавіць у тым аб'ёме, як раней, памыляецца. Трэба знаходзіць новыя кантакты. У тым ліку і ў прапагандзе і распаўсюджванні кнігі.***

***А намаганні, прытым прыкметныя, у гэтым кірунку робяцца. Пацвярджэнне таму — III Мінскі міжнародны кніжны кірмаш, які будзе праходзіць у памяшканні Рэспубліканскага выставачнага цэнтра Рэспублікі Беларусь. Ініцыятарамі і арганізатарамі яго правядзення з'яўляюцца Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь і вытворча-камерцыйная фірма "Макбел".***

Для правядзення кірмашу створаны аргкамітэт, у склад якога ўвайшлі намеснік міністра культуры і друку РБ С. Нічыпаровіч (старшыня), генеральны дырэктар ВКФ "Макбел" Дз. Макараў (выканаўчы дырэктар), камерцыйны дырэктар "Макбела" Г. Шульга (намеснік выканаўчага дырэктара), галоўны спецыяліст Міністэрства культуры і друку Ю. Іваноў (сакратар аргкамітэта) і члены аргкамітэта: генеральны дырэктар КП "Белкніга" А. Гурыновіч, дырэктар выдавецтва "Вышэйшая школа" А.Жадан, дырэктар выдавецтва "Юнацтва" В. Лукша.

У аўторак адбылася прэс-канферэнцыя для журналістаў. Пра мэты і задачы кніжнага кірмашу, план яго правядзення падрабязна расказаў С. Нічыпаровіч. Урачыстае адкрыццё адбудзецца 1 лютага ў 12 гадзін дня. Наведвальнікі ж змогуць завітаць на кірмаш 2 і 3 лютага з 10 гадзін раніцы да 17 гадзін вечара па ўваходных білетах, кошт якіх параўнальна невялікі: звычайны 5 тысяч рублёў, льготны — 2 тысячы.

Сярод удзельнікаў кірмашу — фірмы-арганізатары міжнародных кніжных кірмашоў з Балгарыі, Германіі, Польшчы і Расіі, буйнейшыя выдавецтвы Беларусі, Галандыі, Балтыі, Расіі, Украіны, кнігагандлёвыя прадпрыемствы СНД, Балгарыі, Балтыі, а таксама эксклюзіўны дыстрыб'ютар "Энцыклапедыя Брытаніка". На кірмаш бясплатна запрошаны дырэктары больш чым 80 беларускіх кнігарань, а таксама дырэктары буйнейшых бібліятэк.

Як падкрэсліў Станіслаў Антонавіч, правядзенне кірмашоў (першы і другі праходзілі адпаведна ў 1994 і 1995 гадах) сёння вельмі важна, паколькі дае магчымасць наладзіць больш цесныя кантакты выдаўцам і распаўсюджвальнікам кнігі.

У праграме кірмашу — дні рускай кнігі, выязное праўленне Асацыяцыі кнігараспаўсюджвальнікаў СНД, "круглы стол" па праблемах камплектавання бібліятэк, нарада дырэктараў арэндных кнігарань па праблемах асартыменту.

С. Нічыпаровіч паведаў і аб сённяшнім стане беларускага кнігавыдання. На 1 студзеня 1996 года ў нашай дзяржаве зарэгістравана 1257 фірм, прадпрыемстваў, арганізацый, што маюць права займацца кнігавыданнем, і сярод іх толькі 10 дзяржаўных выдавецтваў. Цяпер робіцца вельмі шмат для таго, каб сацыяльна значная літаратура (а сюды адносіцца і ўся беларускамоўная літаратура) своечасова прыходзіла да чытача. За кошт рэспубліканскага бюджэту будуць часткова камплектавацца бібліятэкі, у тым ліку і серыяй "Школьная бібліятэка".

Што да маючага адбыцца кніжнага кірмашу, дык адно несумненна - ён патрэбен. А наколькі будзе выніковым, пакажа дзень заўтрашні. Дзякуючы кнігам, якія з'явяцца ў магазінах.

Дарэчы, для гандлю тут шырокае поле дзейнасці. Як зазначыў С. Нічыпаровіч, у былым СССР штогод выходзіла звыш 80 назваў тысяч кніг і брашур. Практычна ўсе іх можна было заказаць.

Цяпер жа даводзіцца разлічваць на ініцыятыву. І — на такія кірмашы, у час работы якіх можна наладзіць належныя кантакты.

# ФРАНЦУЗСКАЯ ХВАРОБА Ў ЧАСОПІСЕ ПАНА ГЕДРОЙЦА

Уладзімір КОНАН

СПАЧАТКУ, дарагія чытачы, дамовімся адносна тэрміна "французская хвароба". Я маю на ўвазе не тую "далікатнага" паходжання немач, якую беларусы дасціпна назвалі "пранцы". Хвароба, пра якую пойдзе гутарка ў гэтых нататках, скарэй вялікарасійскага, чым французскага, паходжання. Яе мікроб з'явіўся адразу пасля разбору колішняй Рэчы Паспалітай у асяроддзі "заходнерускай" гістарычнай навукі і публіцыстыкі кацярынінска-мікалаеўскай эпохі (канец XVIII — першая палова XIX ст.). Эпідэмія каланіяльнага сіндрому ахапіла грамадска-палітычны арганізм Расійскай імперыі пасля 1905 года, бо рэвалюцыя паставіла пад сумненне адвечнасць і месіянства гэтай звышдзяржавы.

Але тады, у царскай Расіі, гэтую хворасць удалося часткова лакалізаваць на ўзроўні чарнасоценскіх груповак і тых "левых" партый, якія прымкнулі да ўсерасійскага чарнасоценскага руху, калі ж Расійская імперыя рухнула, зараза перакінулася на "левыя" партыі, глыбока пранікла ў арганізм расійскага грамадства. Пра сваіх "левых" дэмакратаў У. Ленін у свой час дасціпна сказаў: паскрабі іншага бальшавіка — і выявіцца тыповы вялікарасійскі шавініст.

Сутнасць чарнасоценскай заразы зусім не ў імкненні да рэстаўрацыі царскай імперыі, як думаюць некаторыя дэмакраты; нават не ў антысемітызме, хоць юдафобства — яе невылечны сімптом. Шматаблічнае "праваслаўнае" чарнасоценства ў свой час прымірылася з бязбожным бальшавізмам, а сёння яго "ліберальна-дэмакратычная" разнавіднасць вітае пражэкт нейкай карыкатуры на ЗША ў форме Злучаных Штатаў (альбо губерняў, што адно і тое ж). адзінай і непадзельнай Расіі ў межах да "кастрычніцкага перавароту" 1917 года. Ядро чарнасоценскай душы — адмаўленне этнанацыянальнай, культурнай і дзяржаўнай самастойнасці беларусаў ды ўкраінцаў і як вынік — палітыка "інтэграцыі" Беларусі і Украіны ў складзе "агульнарускага" народа і Вялікай Расіі.

Пасля распаду Савецкага Саюза ў канцы 1991 года (а чарнасоценцы ўсіх колераў і адценняў лічаць былы СССР, насуперак міжнароднаму і быламу савецкаму праву, Расіяй) еўрапейскую прэзентацыю гэтай чарнасоценскай лухты аднойчы ўзяла на сябе папулярная французская газета "Фігаро". Недзе ў 1992 ці 1993 годзе яна (хутчэй за ўсё з падачы расійскай эміграцыі, заражанай мікробам чарнасоценства) заявіла, быццам бы Беларусі ніколі не было ў гісторыі, а беларусы — выдумка бальшавікоў. Нягледзячы на шматлікія пратэсты з боку беларускіх патрыётаў, ні "Фігаро", ні наогул французскія сродкі інфармацыі, здаецца, не дэзавуіравалі гэтага злога паклёпу. Вось чаму ёсць усе падставы называць чарнасоценскае адмаўленне беларусаў (у еўрапейскай спрошчанай інтэрпрэтацыі) французскай хваробай у яе, так сказаць, "нетрадыцыйнай" форме.

Звернемся цяпер да парыжскага часопіса пана Гедройца. Пра тое, што ўраджэнец нашага Мінска Ежы Гедройц выдае ў Парыжы польскі часопіс "Культура", я даведаўся з нашай добрай газеты "Голас Радзімы". Летась 30 лістапада яна змясціла пад рубрыкай "Хроніка беларускага жыцця" нататку рэферэнта Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў (МАБ) Лены Казловай пра "вялікае інтэрв'ю беларускага пісьменніка Сяргея Дубаўца з загадчыкам кафедры славянскай філалогіі Вільнюскага універсітэта, вядомым беларусістам [...] Валерыем Чакмонасам (Чэкманам) пад назваю "Беларусы хочуць, каб было як раней" ("Культура", Парыж, 1995, N 9, С. 119—134). Беларускія лінгвісты ведаюць В. Чэкмана, былога супрацоўніка Інстытута мовазнаўства Акадэміі навук Беларусі. Аказваецца, у Вільні ён па сумяшчальніцтве працуе над праектам "Фарміраванне новага геапалітычнага арэала ў Цэнтральнай Еўропе".

Паводле газетнай нататкі, В. Чэкман-сацыёлаг "аб'ездзіў амаль усю Літву і Беларусь, апытаўшы звыш 300 чалавек". Вывады, да якіх прыйшоў Чэкман-сацыёлаг, зазначае аўтар нататкі, не на карысць беларусаў: яны, "расчараваныя і знявераныя", не так шчыра і ахвотна адказвалі на пытанні, як літоўцы. Неафіт-сацыёлаг тлумачыць гэтыя комплексы "пралетарызацыяй свядомасці і культуры" (маецца на ўвазе, верагодна, беларуская культура), люмпенпралетарскай псіхалогіяй людзей, якія імкнуцца да рэстаўрацыі савецкага мінулага, на 80% атэісты, да таго ж гавораць на жахлівай "трасянцы". Аб'ездзіўшы "амаль усю Беларусь", пан Чэкман, аказваецца, "не сустрэў сем'яў", дзе гаварылі па-беларуску. Урэшце, герой інтэрв'ю спадара С. Дубаўца прызнаецца, што на падставе вось такой, на мой погляд, "сацыялагічнай" пагулянкі па Беларусі і Літве рыхтуе манаграфію. Здаецца, ужо вымалёўваюцца персанажы гэтай манаграфіі: прыхільнік радыкальных рыначных рэформ зборны тып літоўца — і ягоны антыпод, такі ж "зборны", але люмпенізаваны рэтраград і прыхільнік рэстаўрацыі савецкай мінуўшчыны, у лапцях ці атопках, альбо зусім "голы" беларус.

Натуральна, я пачаў шукаць аўтэнтычны тэкст гэтага інтэрв'ю, бо рэферат у жанры кароткай нататкі непазбежна схематызуе аўтарскую канцэпцыю. І знайшоў, як кажуць, сякеру пад лавай: парыжскі часопіс "Культура" пана Гедройца ёсць у бібліятэцы Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны, які разам з Міжнароднай асацыяцыяй беларусістаў — найбольш інфармаваныя інстытуты адносна замежнай беларусістыкі. Аказалася, што газетная нататка нічуць не скажае ацэнкі і высновы пана Чэкмана. З аўтэнтычнага тэксту яго інтэрв'ю чытач даведаецца шмат іншых "глабальных" адкрыццяў самадзейнага сацыёлага. Заняўшы ўсю Беларусь сацыялагічнай "атакай сходу" і апытаўшы, верагодна, найбольшых ахвотнікаў да сумоўя з "чужаземцам" (а такія, ведаю са свайго боку, звычайна аказваюцца не беларусы, часцей антыбеларусы), пан Чэкман зрабіў "генеральныя" высновы адносна беларусаў, іхняй культуры, менталітэту.

У этна-рэлігійным плане "беларусы" (бяру гэтае слова ў двукоссе, бо яно не мае нічога агульнага з беларускай нацыяй) не любяць балтыстаў і мусульманаў; "найбольшая антыпатыя ў іх да грузінаў", на другім месцы ўзбекі. А яшчэ "для беларусаў фактычна не існуе Скандынавія". У аспекце культуным "для вялізнай колькасці беларусаў у гарадах, фактычна для ўсіх (падкрэслена мною), па ўсіх адзнаках [...], родная мова ёсць расійская". Але справа не толькі ў мове, яна — "толькі сродак" (і гэта гаворыць прафесар філалогіі!); справа ў тым, кажа Чэкман, што беларусы "сталі носьбітамі расійскай культуры".

Тут лінгвіст супярэчыць самому сабе, бо раней казаў пра бескультур'е і моўную "трасянку" сваіх анкетаваных 350-ці суразмоўцаў. Няўжо "трасянка" люмпенпралетарскага натоўпу ёсць вялікая расійская культура? Прыпісваючы іх погляды ўсім беларусам, Чэкман-сацыёлаг зазначае: "Каля 99% беларусаў выступаюць за супрацоўніцтва з Расіяй", ім "не трэба супрацоўнічаць ні з Англіяй, ні з Францыяй, ні з Польшчай, ані з кім наогул". Беларусам, аказваецца, не трэба мець нічога агульнага з Прыбалтыкай. У Беларусі "чым далей на ўсход, тым больш Польшча як бы наогул перастае існаваць".

У плане сацыяльна-палітычным, паводле Чэкмана, беларусы абсалютна бесперспектыўныя, бо ўглядаюцца толькі ў савецкую мінуўшчыну. Урэшце, паслухаем сацыялагічнае прароцтва паводле фармуліроўкі самога Чэкмана: "І мне здаецца, што Беларусь — той адзіны, найбольш рэальны асяродак, дзе можна паспрабаваць адбудаваць тое, што было. Псіхалагічна людзі прынялі б гэта нармальна [...] Магчыма, рэстаўрацыя СССР, калі СССР будзе толькі Беларусь. У межах беларускай палітычнай ментальнасці гэта будзе як тое, што павінна быць".

Вось такі партрэт "беларускай" нацыі (беларусаў як нацыі, а не 350-ці апытаных выпадковых насельнікаў Беларусі) з'явіўся на свет з-пад пэндзля прафесіянальнага лінгвіста і самадзейнага сацыёлага, былога мінчука Чэкмана. Да таго ж партрэт гэты, аказваецца, рабіўся не толькі для ўласнай манаграфіі, але і на заказ. "Пакуль што толькі збіраюцца анкеты. Падагульненні робяцца ў Жэневе", — шчыра прызнаецца пан Чэкман, выхваляючыся, што "выніковая праца будзе на англійскай мове". Не цяжка здагадацца, што Інстытут паліталогіі Жэнеўскага універсітэта вось такім манерам рыхтуе нейкі "банк дадзеных" пра народы Цэнтральна-Усходняй Еўропы і, натуральна, пакладзе туды намаляваны Чэкманам партрэт "беларуса". Аўтар партрэта, здаецца, дэмакрат, але ягоны "твор" — рыхтык як у чарнасоценцаў.

Далейшыя росшукі вытокаў гэтага сацыялагічнага блефу прывёў мяне да тыднёвіка "Наша Ніва" (не блытайце, калі ласка, з былой "Нашай Нівай" Янкі Купалы і братоў І. і А. Луцкевічаў). Аказваецца, што сацыялагічнае "адкрыццё" беларусаў панам Чэкманам упершыню апублікавана ў гэтай свабоднай і дэмакратычнай газеце, але пад іншым загалоўкам: "Народ хоча, каб было як раней". Назва, праўду кажучы, дэзавуіруе адказы пана Чэкмана, бо пад паняццем "народ" можна разумець расійцаў, русіфікаваных яўрэяў і тутэйшых "рускамоўных", якія сёння надаюць "ментальную" дамінанту "дэмасу" на Зямлі Беларускай. Аднак гэта не мяняе сутнасці "беларусабойчага" інтэрв'ю пана Чэкмана, за якое беларускае выданне нясе адказнасць перад нацыяй і гісторыяй. Праўда, сучасную "Нашу Ніву" чытае пераважна нацыянальна свядомая, адукаваная беларуская публіка ў Беларусі і за мяжой. Яна добра ведае, хто ёсць хто.

На жаль, больш чым наіўная, па-дзявочаму "нявінная" ў беларусазнаўстве Еўропа (не кажучы ўжо пра Азію і Амерыку) будзе глядзець на чэкманаўскую шыльду, прыклееную да Беларусі, а не на тысячагадовае Гістарычнае Дрэва беларускай нацыі (такое ўжо наканаванне сучаснай цывілізацыі — глядзець не ў твар чалавека і нацыі, а на іхнюю "сацыялагічную" анкету). Гэта прымушае мяне даць свае адказы на асноўныя ацэнкі і высновы пана Чэкмана. Няхай прабачаць мне свядомыя беларусы (а яны і толькі яны маюць права прэтэндаваць на прататып партрэта беларускай нацыі), калі прыйдзецца закрануць вядомыя, як штодзённая малітва, ісціны, якія ігнаруе штодзённы друк канфармісцкага кірунку.

З пункту погляду навуковай сацыялогіі экскурсы пана Чэкмана ў сферу беларускага менталітэту — усяго толькі банальнае аматарства. Нават у чыста колькасных адносінах (няхай даруе мне лінгвіст, які ўзяўся не за сваю справу) не навука, а звыклая сёння пашэхонская пагулянка па Беларусі. Нельга сур'ёзна аднасіцца да сацыёлага, які экстрапалюе адказы 350-ці выпадковых людзей на ўвесь народ, больш таго, нацыю. Мая былая аспірантка, праводзячы прафесіянальнае сацыялагічнае даследаванне толькі аўдыторыі беларускіх тэатраў Мінска, распаўсюдзіла і апрацавала звыш дзвюх тысяч анкет, у якіх былі, між іншым, звесткі пра нацыянальнасць, узрост, адукацыю, род заняткаў. У агульную сацыялагічную мадэль тэатральнай аўдыторыі ўводзіліся папраўкі паводле апытання экспертаў — тэатразнаўцаў, рэжысёраў, эстэтыкаў. Між тым В. Чэкман прапануе для еўрапейскага інстытута, дзе, магчыма, першы раз чуюць пра Беларусь, карыкатурную мадэль беларускай нацыі, праігнараваўшы аб'ектыўную статыстыку, вынікі апошняга перапісу насельніцтва і думку экспертаў.

У аспекце якасным узнікае пытанне: што разумее даследчык пад этнонімам "беларусы"? Калі ўсіх, хто жыве ў Беларусі, есць беларускі пірог з вяндлінай, п'е "Белую Русь" і "Зуброўку", то ягоныя інфарматары, якія, паводле ацэнак самога Чэкмана, страцілі асноўныя прыкметы беларускасці, былі хутчэй за ўсё антыбеларусы (па аналогіі з натурфіласофскімі апазіцыямі: часціцы — антычасціцы, свет — антысвет). Гэта ў Францыі ўсе жыхары называюцца французамі, хоць не заўсёды этнічнымі, карэннымі. Бо з чаго пачынае польскі, расійскі, арабскі ці іншы эмігрант у Францыі? З таго, што інтэгруецца ў французскім грамадстве, вывучае яго мову, дапасоўваецца да французскага менталітэту. А ў глыбіні душы і ў асяроддзі сваёй эміграцкай абшчыны захоўвае, калі хоча, мову і звычаі сваіх бацькоў. Калі ж разбагацее, то пры жаданні адкрые сваю школу, газету, каледж — на свае ўласныя сродкі. У рэшце рэшт пападае ў плынь натуральнай французскай асіміляцыі, альбо, падзарабіўшы валюты, вяртаецца на бацькаўшчыну.

Між тым у Беларусі апошнія два стагоддзі адбывалася нешта зусім іншае, незразумелае еўрапейскаму чалавеку з нармальнай прававой свядомасцю. Адбывалася каланізацыя краіны з тысячагадовай культурнай і дзяржаўнай традыцыяй з двух бакоў — Усходніх і Заходніх "вучоных" (паводле Купалавай трагікамедыі "Тутэйшыя"). Не буду тут закранаць гэтай праблемы фальшывага месіянства імперскага кшталту. Напомню толькі пра вынікі гаспадарання бальшавіцкага імперыялізму ў Беларусі: вынікі нацыянальнага Адраджэння 1917—1920 гг., пазней у дэфармаванай форме ў рамках БССР 20-х гадоў, зліквідаваны. Беларускія школы ўсіх ступеняў гвалтоўна выцеснены расійскімі, нацыянальная культурная эліта знішчана, яе рэшткі падаўлены і дэфармаваны; а сялянства, — тое "ўлонне", якое няспынна ўзнаўляла нацыю, — зліквідавана ў працэсе калектывізацыі. У выніку свядомымі беларусамі ў Беларусі засталіся крыху больш адной трэці яе насельнікаў. Прыкладна столькі, колькі галасавала на прэзідэнцкіх выбарах за Зянона Пазняка і Станіслава Шушкевіча. Але гэтай "рэшты", таго Боскага дару, ад якога можа наноў адрадзіцца Беларусь, пан Чэкман "не заўважыў". А можа, не захацеў убачыць?

Але, магчыма, адраджэнне, альбо ўваскрэсенне гістарычных нацый для пана Чэкмана — занадта метафізічная альбо містычная праблема? У такім выпадку спытаемся ў яго: як жа Вы, шаноўны лінгвіст, які прэтэндуе на званне сацыёлага і палітолага, не заўважылі палярызацыі насельніцтва, яе расколатасці на беларусаў і антыбеларусаў? Паміж імі апынулася аморфная маса, той "дэмас", які пойдзе за тым, хто возьме ўладу, падпарадкаваўшы сабе эканоміку і дзяржаўныя структуры. Зноў жа, тут ёсць яшчэ адна праблема, і яна мае свой евангельскі архетып. Напомню эпізод сустрэчы Хрыста з самаранкай ля студні Якуба: "Прыходзіць жанчына з Самарыі зачарпнуць вады. Ісус звяртаецца да яе: дай мне напіцца [...]. Жанчына самаранская кажа Яму: "як Ты, Юдэй, просіш піць у мяне, Самаранкі? Бо Юдэі з Самаранамі не маюць зносін" (Ян 4:7—9).

Той хімерны этнас, які Вы, пан Чэкман, прэзентуеце Еўропе, гэта не беларус, а ягоны антаганіст. У беларускай чарадзейнай казцы "Таратурка" ёсць ягоны міфалагічны архетып: Юда-Антыюда Беззаконная галава. Падвойнае самаадмаўленне ў самім імені. І вось мая парада Вам, шаноўны калега: забярыце Ваш фальшывы, калі не сказаць мацней, "партрэт" беларуса і павесьце яго на цвічок у адным патаемным месцы. Гэтым Вы рэабілітуеце сябе як лінгвіста і беларусіста.

То ці жыве Беларусь, спытаюць у мяне, прачытаўшы мае нататкі. Жыве і, з Боскай дапамогаю, перажыве "свайго" Левіяфана, які некалі праглынуў яе і трымаў у сваім ненажэрным чэраве амаль тры стагоддзі. Праглынуў, але не змог да канца "пераварыць", падавіўся "рэшткаю". Па малітвах яе прарокаў. Як у біблейскага Іоны: "...Из чрева адова вопль мой, услышал еси глас мой". Гэтая "рэштка", што галасавала за вольную і незалежную Беларусь, колькасна склала каля адной трэці выбаршчыкаў, якія прынялі ўдзел у травенскім галасаванні 1994 года. Калі ўлічыць тых маладых беларусаў, якія яшчэ не мелі права голасу, урэшце, і тых, дарослых вяскоўцаў, якіх ашукала хлуслівая прапаганда, то нас, беларусаў, рэальна існуючых і магчымых, у будучыні, больш паловы насельніцтва краіны. Яе якраз не заўважыў літоўска-жэнеўскі сацыёлаг. Не захацеў пашукаць. Бо беларусы не любяць "высоўвацца", не хочуць спавядацца, як след не пасябраваўшы з суразмоўцам.

Прыгадваецца гаворка ў кінатэатры "Перамога" на прэзентацыі аднога фільма польскага рэжысёра Ф. Фалька. Шмат гаварылі два расійскія "афганцы", што выпадкова аказаліся ў Мінску, гаварылі яўрэі ды іншыя рускамоўныя. А беларуская большасць маўчала. На добрай беларускай мове гаварыў польскі дыпламат Галкоўскі. Такі наш нацыянальны характар. Тут беларусы бліжэй да фінаў і шведаў, у той час як расійцы бліжэй да гаваркіх і адкрытых амерыканцаў.

У рэшце рэшт справа не ў масавасці. Нацыянальны тып беларусаў, як усякай іншай нацыі, вызначае яе эліта. Прыгадваюцца колішнія бальшавісцкія падручнікі ўсеагульнай гісторыі. Ад выдання да выдання, дзесяцігоддзямі паўтаралася дурная насмешка над каралём Людовікам XIV, які некалі гаварыў: Францыя — гэта Я! Між тым, у гэтых каралеўскіх словах ёсць простая, амаль дзіцячая, і разам з тым глыбокая, амаль містычная, праўда. Не вызначаць жа вобраз і сімвал Францыі па розных рэнегатах, кантрабандыстах, спекулянтах і суцянёрах.

Вось і сёння кожны, хто захаваў вернасць Маці-Беларусі, яе мове, традыцыі і сімволіцы, мае права і абавязак сказаць: Беларусь і беларусы — гэта Я! І не блытайце нас, шаноўныя панове, з іншымі.

## ПРАЧЫТАННЕ ГІСТОРЫІ

**нашай Бацькаўшчыны, прачытанне ўдумлівае, глыбокае, аб'ектыўнае, працягваецца ў шостым за мінулы год нумары часопіса "Беларуская мінуўшчына". Чытачы, зацікаўленыя лепшым веданнем таго, як жылі беларусы і іншыя народы ў розныя часы, знойдуць для сябе шэраг аргументаваных матэрыялаў. Прынамсі, Л. Лойка выступае з артыкулам "Рэспубліка і яе эпоха". Як вядома, 24 кастрычніка 1995 года споўнілася дзвесце гадоў з дня распаду Рэчы Паспалітай. Як сведчыць аўтар, "юбілей, на жаль, застаўся ўбаку і ад увагі цэнтральнай прэсы. Відавочна, адбылося гэта таму, што многім дзяржаўным кіраўнікам, палітычным дзеячам і журналістам меркаванне аб важнасці ролі Рэчы Паспалітай у гісторыі Беларусі падаецца спрэчным. Нямала і такіх, хто наогул адмоўна ставіцца да гэтай дзяржавы (альбо па палітычных матывах, альбо з-за недахопу ведаў). Для іх перш за ўсё і публікуем мы гэты артыкул".**

**Далёка не ўсе ведаюць, але пра гэта сведчыць шэраг гістарычных крыніц, што на тэрыторыі старажытнай Беларусі ў "справах святых і судных" улада належала святарскай язычніцкай касце крэваў. Пра гэта развагі В. Чаропкі ў артыкуле "Крэвы". А У. Арлоў і Г. Сагановіч працягваюць "Гісторыю Беларусі: год за годам". У нумары прадстаўлены наступныя гады: "1791. Сейм Рэчы Паспалітай прымае Канстытуцыю", "1793. Другі падзел Рэчы Паспалітай", "1794. Паўстанне Тадэвуша Касцюшкі", "1795. Трэці падзел Рэчы Паспалітай".**

**Адна са старонак вайны са Швецыяй, што пачалася ў 1654 годзе, узнаўляецца ў нарысе В. Літвіна "Бітва за Варшаву". А. Лакотка ("Здзірванелы курган векавечны...") звяртаецца да пахавальнай абраднасці беларусаў. А. Соніч ("Гібель Нямігі") запрашае прайсціся вуліцамі старога Мінска.**

**Яшчэ ў 1972 годзе ў замежжы выйшла гістарычная манаграфія П. Урбана "У святле гістарычных фактаў", аўтар якой палемізаваў з Л. Абэцэдарскім. Паводле меркаванняў апошняга, улада ў ВКЛ належала літоўскім феадалам. Іншай думкі прытрымліваецца П. Урбан. Гэта яскрава відаць з урыўка "Хто панаваў у Вялікім княстве?", апублікаванага ў "БМ". Тут жа змешчаны артыкул "Па слядах Францішка Скарыны", напісаны вядомай дзеячкай беларускай дыяспары, удавой старшыні рады БНР Р. Жук-Грышкевіч.**

**Беларускі фонд Сораса і прыватнае выдавецтва "Паліфакт" вырашылі выдаць мастацкі альбом "Гістарычныя сядзібы Беларусі". У аўтарскі калектыў уваходзіць і А. Карлюкевіч. Аб некаторых момантах паездкі па гістарычных мясцінах ён расказвае ў нататках "Дом інвалідаў".**

**У. Аніскові ч ("Новы дом мінулага") падрабязна знаёміць з Мінскім абласным краязнаўчым музеем, што знаходзіцца ў Маладзечне.**

**Несумненна прыцягне ўвагу чытачоў артыкул С. Асіноўскага "Очерки" супраць "Нарысаў", або Што такое "материалистическое понимание истории". Гаворка ідзе пра дапаможнік для вайскоўцаў "Очерки военной истории Белоруси", пра якія інакш як пра псеўданавуковыя не скажаш. М. Барчак ("Апошні ўзлет?") агляд ае кнігі на гістарычную тэматыку, якія выйшлі апошнім часам.**

**Ёсць у нумары і іншыя цікавыя матэрыялы: "Ціхі прытулак, або Чацвёртае адраджэнне" М. Пішчулёнка і Н. Старковай, "Западнорусизм" па-гомельску" У. Качаткова, "...Захаваўшы для нашчадкаў" М. Шумейкі, "Невінаватым ад нас не выйдзеш..." У. Міхнюка, "Эмігранты" У. Снапкоўскага, "Каму і як захоўваць дакументальную спадчыну камуністаў?" Р. Платонава...**

## ВАБНАСЦЬ ЯГО ВЯЛІКАСЦІ ФАЛЬКЛОРУ

**Хоць вынікі цывілізацыі, часам, не лепшым чынам уплываюць на культуру, прынамсі, пачынаюць забывацца традыцыйныя звычаі, абрады, усё радзей пачуеш арыгінальную народную песню, але гэта не значыць, што фальклор памірае. На шчасце, знаходзяцца (безумоўна, найперш у вёсцы) людзі, якіх вабіць хараство першароднасці. Тым больш прыемна, што яны трапляюць у поле зроку даследчыкаў, а ў выніку з'яўляюцца новыя запісы вусна-паэтычнай творчасці народа.**

**Выдавецтва "Універсітэцкае" вырашыла зрабіць асобныя з іх набыткам грамадскасці. А ў выніку распачало выпуск серый кніг. Нядаўна пабачыла першая з іх — "Беларускі фальклор у сучасных запісах. Традыцыйныя жанры", а калі канкрэтней, дык гэта фальклор, запісаны на Міншчыне. Укладанне вусных твораў — вядомага даследчыка фальклору В. Ліцвінкі, а ўкладанне музычнай часткі — Г. Кутырова. Застаецца толькі спадзявацца, што выданне не пройдзе міма кіраўнікоў мастацкай самадзейнасці, бо многія з запісаў, прадстаўленых у кнізе, так і просяцца на сцэну.**

# НА АТЛАНТАХ ЗЯМЛЯ ТРЫМАЕЦЦА

ТВОРЫ Івана Шамякіна ўваходзілі ў наша свядомае жыццё ў 50-я гады. Тады мы, вясковыя школьнікі, з захапленнем зачытваліся самі і раілі сваім аднакласнікам абавязкова пазнаёміцца з аповесцю "Помста", раманамі "Глыбокая плынь", "У добры час". Дзякуючы любімай выкладчыцы беларускай літаратуры Ніне Іпалітаўне Куракевіч перад намі адкрываліся таямніцы мілагучнага роднага слова, мы вучыліся спасцігаць эстэтычную асалоду мастацкіх твораў. З іх, а таксама з успамінаў дарослых, нам, дзецям вайны, якія перажылі яе ў немаўляцкім узросце, яна ўяўлялася, як нейкі страшэнны прывід. З твораў А. Шамякіна, можна сказаць, пачыналася маё свядомае вывучэнне беларускай пасляваеннай прозы і ў першую чаргу асэнсаванне яе ваеннай тэматыкі.

Кожнае пакаленне знаходзіць у мастацкай літаратуры тое, што найбольш імпануе яго ўзросту, настрою. Памятаю, як хвалявала нас мужнасць і адданасць Радзіме простых, зусім звычайных людзей, герояў рамана "Глыбокая плынь", якім воляй лёсу і абставін наканавана было стаць партызанамі, змагарамі за незалежнасць роднай зямлі (Таццяна, Мікалай і Карп Маеўскія, Жэнька Лубян, Насця і Андрэй Буйскія, урач Алена Рыгораўна і інш.).

З асаблівай зацікаўленасцю ўспрымалася тагачаснай моладдзю рамантыка светлых юнацкіх пачуццяў Таццяны Маеўскай і Жэнькі Лубяна ("Глыбокая плынь"), Максіма Лескаўца і Машы ("У добры час"), Алёшы Касцянка і Раі ("Крыніцы"), Сашы Траянавай і Пятра Шапятовіча (пенталогія "Трывожнае шчасце"). Калі ў перыядычным друку (здаецца, у газеце "Чырвоная змена") пачала публікавацца першая частка пенталогіі — "Непаўторная вясна", — чытачы не маглі дачакацца наступнага нумара.

У першай палавіне 60-х гадоў з'явіўся раман І. Шамякіна "Сэрца на далоні". Тады ж, у мае студэнцкія гады, на філалагічным факультэце пад кіраўніцтвам І. Навуменкі адбыўся дыспут, на якім бурна абмяркоўваліся дасягненні аўтара, нешта ўхвалялася, штосьці аспрэчвалася. Мне ж асабліва падабаліся неардынарнасць як знешніх, так і псіхалагічных характарыстык доктара Яраша, яго абаяльная прыцягальнасць, дасканаласць прафесійнага майстэрства, гарманічная прывабнасць "залатой" сястры Машы, дасціпны гумар у абмалёўцы Шыковіча. Своеасаблівай рэакцыяй моладзі на тагачасную адлакіраваную рэчаіснасць уяўляліся піжонства і пазёрства Славіка Шыковіча. Сумненні выклікала паталагічная рэўнасць Галіны Адамаўны, жонкі Яраша.

Ураженні ад прачытанага ў далёкія школьныя і студэнцкія гады засталіся ў памяці на ўсё жыццё. Яны і сёння настолькі моцныя і свежыя, нібы і не было тых трыццаці—сарака гадоў, якія прамільгнулі з маланкавай хуткасцю.

Дык у чым жа сакрэт папулярнасці твораў І. Шамякіна? Што ў іх з поспехам прайшло апрабацыю, вытрымала



З аднакласнікамі. 1936 г.

праверку часам?

Сёння для мяне, як радавога чытача, зусім не мае значэння, якія пасады займалі Бародка, Гукан, Ігнатовіч і іншыя кіраўнікі, а дакладней, партакраты розных рангаў. Я не ўлаўліваю ў іх характарах рысаў жывых людзей. Гэта хутчэй людзі-схемы, якія дзейнічаюць у зададзеным парадку дзеля нейкіх палітычных гульняў. Але палітыка не мая стыхія. Палітыкі не вечныя. Яны прыходзяць і адыходзяць, а народ застаецца, застаецца яго культура, мова, літаратура.

Мастацкі твор не павінен быць толькі рупарам ідэй, прывязкай да пэўнага часу. Жыццё пастаянна падкідвае новыя надзённыя праблемы, за якімі немагчыма ўгнацца. Ды і ці варта гэта рабіць?

Адметнасць таленту І. Шамякіна тым не менш у яго грамадзянскай скіраванасці. Мусіць, кожны з даследчыкаў, хто пісаў пра яго творчасць, не абыходзіў увагай яе актуальнасць, уменне надзённа адклікацца на патрэбы часу.



Са Сцяпанам Александровічам. 1973 г.

"Ён уважліва ўглядаецца ў жыццё, — разважае У. Гніламёдаў, — шукаючы ў ім цікавае, характэрнае, тыповае, абапіраючыся пры гэтым на дакладныя даныя сацыялогіі і статыстыкі".

Перавагу сацыяльна-публіцыстычнага перад вобразным адлюстраваннем асабліва ў рамане "Петраград—Брэст" сцвярджае В. Каваленка. "Трэба сказаць, — зазначае ён, — што ўся творчасць І. Шамякіна вызначаецца падкрэсленай сацыяльнай аналітычнасцю, перавагай пошукаў грамадска-сэнсавага вырашэння жыццёвых калізій перад задачамі чыста вобразнага адлюстравання. З яшчэ большай выразнасцю гэтая тэндэн-

Паўлюк ПРАНУЗА

## ІВАНУ ШАМЯКІНУ

*ДА 75-ГОДДЗЯ НАРАДЖЭННЯ*

**Ці ў майскай просені нябёсы,**
**Ці белы кужаль тчэ зіма,**
**Калыска, сонца твайго лёсу**
**Кут — незабыўная Карма.**

**Пачуў тут ціхі пошум бору,**
**Спеў салаўя, звон ручайка.**
**Адсюль на светлыя прасторы**
**Шлях пачынаўся юнака.**

**Калі ж паклікала краіна,**
**Пад гул бамбёжак і гармат**
**Данёс ты помсту да Берліна**
**Як мужны патрыёт-салдат.**

**З тваіх крыніц празрыстых, чыстых**
**Мы п'ём,**
**Глыбокая ў іх плынь.**
**Сумленна, сэрцам праменістым**
**Народу служыш, верны сын.**



Сустрэча ў вайсковым гарнізоне. 1995 г.

цыя ўвасобілася ў рамане "Петраград—Брэст". Можна нават адчуць, што ў гэтым творы выяўляецца ўжо жанравы зародак палітычнага рамана".

Узмацненне публіцыстычнага пафасу становіцца адной з асноўных тэндэнцый грамадскага мыслення апошняга дзесяцігоддзя, што прыкмячаецца і ў творах І. Шамякіна асабліва апошніх гадоў (раман "Злая зорка", аповесці "Бумеранг", "Сатанінскі тур", "Падзенне" і інш).

У роздуме над глабальнымі праблемамі сучаснасці, як выжыванне чалавецтва перад пагрозай ядзерных катаклізмаў, узаемаадносіны асобы і грамадства, бацькоў і дзяцей, чуецца невымерны чалавечы боль, трагізм. У духоўным адраджэнні бачыцца адзіная магчымасць засцерагчы грамадства ад канчатковай дэградацыі і выстаяць у змаганні з разбуральнымі сіламі стыхіі. Менавіта да такой высновы прыходзіш пасля прачытання многіх твораў беларускіх пісьменнікаў (апавяданне І. Пташнікава "Львы", аповесць А. Адамовіча "Апошняя пастараль", раман І. Шамякіна "Злая зорка", п'еса А. Ждана "Салгалі Богу, салгалі" і інш.). "Галактычны боль" (В. Зуёнак), які пасля чарнобыльскай катастрофы прычыніўся да лёсу кожнай беларускай сям'і, як бы сцірае межы паміж рэальным і ўяўным, сацыяльным і эстэтычным, прымушаючы ўзняцца над палітычнымі амбіцыямі і вузкапартыйнымі інтарэсамі.

Адным словам, пераконваешся яшчэ раз, што самым сапраўдным крытэрыем эстэтычнай вартасці мастацкага твора з'яўляецца спрадвечныя, агульначалавечыя каштоўнасці, гуманістычныя ідэалы. Прадыктаванае імі мастацка-вобразнае ўвасабленне праўды жыцця дазваляе пісьменніку ўзняцца над сваім часам і ўпісацца ў вечнасць. Дэздэмона і Атэла, Яга і кароль Лір у стагоддзях увекавечаны геніем Шэкспіра дзякуючы таму, што іх перажыванні, складаныя перыпетыі чалавечых узаемаадносін сталі прыналежнымі да ўсіх эпох. Тое ж можна сказаць і пра герояў А. Бальзака, Л. Талстога, І. Тургенева, якія перажылі свой час.

У творах І. Шамякіна найбольш запамінаюцца характары моцныя, манументальныя, нібы ўпаяныя ў вечнасць: стары настаўнік Даніла Платонавіч Шаблюк, урач Наталля Пятроўна Груздовіч ("Крыніцы"), пісьменнік Шыковіч, доктар Савіч і яго дачка Зося ("Сэрца на далоні"), Максім Карнач ("Атланты і карыятыды"), Іван Васільевіч Антанюк, Марына Аляксееўна Казюра ("Снежныя зімы") і іншыя. Узятыя з натуры, яны прыйшлі ў кнігі пісьменніка ад зямлі, з самых глыбіняў народнага жыцця. У іх характарах сканцэнтравана высокая духоўнасць беларускага народа.

Героі І. Шамякіна блізкія і сімпатычныя чытачу менавіта сваімі гуманістычнымі памкненнямі. Настаўніца Надзея Іванаўна ўсынавіла дваіх чужых дзяцей, якіх кінуў бацька, а маці памерла (апавяданне "Непрыгожая"). Таццяна Маеўская ("Глыбокая плынь") ратуе яўрэйскага хлопчыка, выдаючы яго за сына. Пісьменнік Шыковіч узнаўляе справядлівасць, рэабілітуючы добрае імя доктара Савіча, незаслужана абылганага ў заблытанай падпольнай барацьбе. Анна Отаўна, немка па нацыянальнасці, застаецца вернай клятве Гіпакрата і з годнасцю выконвае абавязак урача, узвышаючыся над нянавісцю антаганістычных варагуючых лагераў.

Як відаць, прадстаўнікам медыцынскага персаналу асабліва пашанцавала. Іх можна сустрэць на старонках многіх твораў І. Шамякіна, што абумоўлена перш за ўсё яго асабістай прыхільнасцю. "Яшчэ ў арміі, — прыгадвае пісьменнік, — я цвёрда вырашыў перакваліфікавацца — пайсці працаваць настаўнікам, выкладчыкам літаратуры і мовы. Прыехаўшы да жонкі, якая працавала фельчарам у вёсцы پракопаўка Церахаўскага раёна, я лёгка здзейсніў свой намер: мяне адразу абралі сакратаром тэрытарыяльнай партарганізацыі, а дырэктар школы з задавальненнем узяў мяне на працу".

Як і Саша Траянава, жонка пісьменніка працавала фельчарам. Наконт рашэння перакваліфікавацца варта патлумачыць, што ў 1940 г. І. Шамякін скончыў Гомельскі тэхнікум будаўнічых матэрыялаў. З першага курса, паводле ўласнага прызнання, яго "прарвала" на вершы. На трэцім курсе стаў адным з актыўных членаў літаб'яднання пры "Гомельскай праўдзе". Пачынаў з вершаў, але на абмеркаванне асмеліўся даць першае апавяданне, зноў жа аўтабіяграфічнае, пра дзяўчыну-фельчара.

Насуперак матэрыяльным нястачам, неўладкаванасці пасляваеннага сямейнага побыту, у 1946 г. пісьменнік збірае матэрыял для будучага рамана пра беларускіх партызан. "Вялікую дапамогу ў гэтым, — як засведчана ў яго аўтабіяграфіі, — аказвала жонка, якая падчас акупацыі жыла ў бацькі. Урэшце магу прызнацца крытыкам, што вобраз Таццяны Маеўскай у многіх сваіх рысах, біяграфічных і псіхалагічных, я спісаў з жонкі".

Нават там, дзе мастацкія вобразы не маюць рэальных прататыпаў, у іх усё роўна адчуваецца моцная, амаль дакументальная аснова, нібы пісьменнік незнарок падгледзеў іх у службовых кабінетах, на вясковых або гарадскіх вуліцах. Эпічныя палотны І. Шамякіна густа населены шматлікімі персанажамі, прадстаўнікамі самых розных сацыяльных пластоў: партыйныя функцыянеры, апаратчыкі, кіраўнікі розных рангаў — ад мясцовага да рэспубліканскага маштабу, партызаны і кадравыя ваенныя, мужчыны і жанчыны, вяскоўцы, рабочыя, інтэлігенцыя, пенсіянеры і моладзь. У лепшых сваіх варыянтах гэта натуры актыўна дзейсныя, па-грамадзянску сумленныя. Яны, як правіла, паслядоўна аберагаюць трывалыя асновы народнай маралі і этыкі, захоўваючы непарушнасць сямейных устояў.

Трэба сказаць, што паводзіны і ўчынкі герояў прозы І. Шамякіна ў асноўным псіхалагічна матываваныя, а сямейныя і грамадскія канфлікты выверaны логікай жыцця. Пісьменнік, як правіла, умее знаходзіць займальныя сюжэты, удалыя і праўдападобныя рашэнні жыццёвых калізій. З самага пачатку яго твораў падзеі развіваюцца імкліва і напружана, тым самым запаланяючы чытача, які наўрад ці здолее адарвацца, пакуль не будзе перагорнута апошняя старонка.

У развіцці сюжэтных ліній нярэдка пераплятаюцца падзеі сучаснасці і гістарычнай даўнасці. Гістарычная падсветка прысутнічае шмат у якіх творах пісьменніка (раманы "Сэрца на далоні", "Снежныя зімы", "Вазьму твой боль"), а ў аповесцях "Гандлярка і паэт", "Шлюбная ноч" яго ўвага цалкам скіравана да гераічнай памяці вогненных гадоў. Праз паэтызацыю пачуццяў кахання ўдалося "зазірнуць" у таямніцы чалавечай душы, адкрыць у ёй нерэалізаваныя патэнцыяльныя магчымасці. Дзіўныя метамарфозы адбываюцца з Вольгай Ляновіч, якую ўсе ведаюць як гандлярку, жанчыну грубую, эгаістычную. Каханне прасвятляе і ачышчае яе душу, яна па-іншаму пачынае глядзець на людзей і свет, які абкружае яе, эгаістычныя памкненні саступаюць месца гуманнасці, самаахвярнасці.

Эпізоды драматычнага кахання ў гады ваеннага ліхалецця ў аповесці "Шлюбная ноч", выпісаныя з густам і пачуццём меры, з'яўляюцца сапраўднай удачай, сведчаннем высокай эстэтычнай культуры творцы.

Пры ўсёй вастрыні ўспрымання надзённай рэчаіснасці, адчуванні яе драматызму і нават трагізму жыццё ў творах І. Шамякіна павернута ў асноўным сваімі светлымі бакамі. Яно шматгалосае, шматколернае, шматграннае, здольнае абудзіць у чытача пачуцці добрыя і прыгожыя, закрануць тонкія і далікатныя струны яго душы.

Уклад пісьменніка ў беларускую літаратуру цяжка пераацаніць. За паўстагоддзя І. Шамякін узняў такія агромністыя жыццёвыя пласты, абжыў такую велізарную дзялянку, што і сам нястомны працаўнік, як і яго героі, уяўляецца не інакш як атлантам, тытанам духу, які ўтрымлівае на сваіх плячах зямныя і нябесныя сферы.

Няхай жа з гадамі не збаўляецца працоўны імпэт пісьменніка, не запавольваецца імклівасць яго творчай хады, а ўдзячныя чытачы зачытваюцца новымі творамі!

**Люба ГАРЭЛІК**

*Фота Ул. КРУКА і А. МАЦЮША*



*З дачкой Таццянай. 1962 г.*



*Аўтограф на памяць. 1972 г.*



*З Сямёнам Шарэцкім... Яшчэ не Старшынёй Вярхоўнага Савета. 1987 г.*



*На "Гомсельмашы". 1978 г.*

Барыс ПЯТРОВІЧ

# ТАМ, ПА-ЗА ШЫБАЙ...



З НІЗКІ "ФРЭСКІ"

адным, але не вярталіся назад з нектарам ці мёдам, а згаралі, успыхвалі іскрынкай над запалкаю, і знікалі недзе ўнізе за дрэвамі і дамамі...

— Віця, што ж ты робіш! — мама ўбегла ў пакой, схапіла коўдру і пачала збіваць ёю полымя. А Віктар злавіў рукою тралейбус, заціснуў у кулак і раструшчыў яго, змяў у далоні, раздушыў, як карабок запалак, разам з астатнімі пасажырамі, каб не лятаў ён болей над горадам і не нараджаў з сябе лятаючых людзей.

## СЯМЁН З ДОМА НАСУПРАЦЬ

Сямён жыў у суседнім доме: вокны ў вокны. Сяргей ведаў толькі ягонае імя ды пазнаваў голас. Пра тое, як выглядае Сямён, ён мог хіба здагадвацца. Сямён уяўляўся Сяргею мажным, неакуратным мужчынам гадоў за сорак. Пінжак наросхрыст, гузікі на кашулі зашпілены праз адзін, няголены і стомлены. Стомлены, бо п'яны. П'яны, бо толькі такім Сяргей і чуў яго.

Прыблізна раз на тыдзень Сямён з'яўляўся дамоў далёка за поўнач. Жонка ў кватэру яго не пускала. І тады ад хрыпатага, гарматна-гулкага голасу Сямёна прачыналіся ўсе чатыры дамы Сяргеевага двара і дзесяткі суседніх. "Сучка!" — крычаў Сямён, — адчыняй дзверы!" — і стукаў кулаком у вакно: "Бу-бу-бу-бу-бух!" Але, у вакно, бо жыў ён на першым паверсе. Жонка не адгукалася, святло не запальвала, быццам і не было яе дома. "Паследні раз прадупраждаю: пусці ў хату!" — каціўся, як гром — з перакатамі, голас Сямёна па начным двары, а ён сыпаў і сыпаў наўздагон адмысловымі матамі і грукаў у вакно: "Бу-бу-бу-бух! Бу-бу-бу-бух!" Шыбка трымцела, аднак вытрымлівала. Затое ў доме, спачатку недзе на трэцім паверсе, потым злева і справа на другім і пятым пачыналі плакаць спалоханыя дзеці. У рэшце рэшт азывалася і жонка: "Ідзі адкуль прыйшоў, кот смурodны!" — выкрыквала яна і голас ейны, прыглушаны шыбамі, здаваўся Сяргею слабым, хворым. Так гавораць жанчыны, заплюшчваючы вочы і матляючы галавою ў невыноснай пакуце.

Пачуўшы жонку, Сямён, адчувалася адразу, ажываў, — голас ягоны расквечваўся радасцю: "А-а, маўчыш, сучка! (Хоць жонка ўжо не маўчала. Азваўшыся, яна пачынала гаварыць-падвываць беспярэстанку). Пускай, а то вокны шчас павыбіваю!" — і "та-та-та-та!" — кулямётныя чэргі матаў. Потым зноў:"Адчыняй!" і "та-та-та!.."

Тут не вытрымліваў хто-небудзь з суседзяў: "Слыш, мужык, сціхнуў ба ты, а то выйду січас і такія дзверы цібе ўстаўлю, што мала не пакажацца!" — "А няхай адчыняе, сучка, — адгукнуўся яму Сямён, — мне тожа жыць нада. Я ж дамой прыйшоў. Я ж яе як чалавека прашу. Як жэншчыну... Што мне — пад вокнамі спаць, ці што?.." — "А каб ты падох там, каб трасцу якую схапіў, каб..." —малаціла і малаціла ў адказ жонка. І тады чуўся апошні стук у вакно. Адзіночны, кароткі, востры: дзынь!.. — шыбка разбівалася, кавалкі шкла падалі на асфальт, біліся з хрумстам і трэскам...

"А, лядзь, зноў парэзаўся! — кожны раз казаў Сямён, — засцаць нада", — і хвілінную начную цішу запаўняў плёскат пругкага струменю.

Жонка з плачам падыходзіла да вакна, расчыняла яго і дапамагала Сямёну ўлезці ў кватэру.

Паўтаралася гэта амаль штотыдзень аж да звыклай аднастайнасці. Прачнецца, бывала, Сяргей і чакае: ага, вось дзеці заплакалі, вось жонка Сямёнава азвалася, а вось і шыбка выляцела... Сяргею нават думалася, што некаторыя суседзі прывыклі да гэтага — як прывыкаеш да ўключанага на ноч радыё — настолькі, што спалі і не прачыналіся ад крыкаў і матаў. Праз дзень-другі Сямён шкліў вакно. Сам, ці нехта з майстроў рабіў гэта — Сяргей не ведаў, бо ніколі не бачыў працэс шклення. Аднак да часу, калі ён вяртаўся з працы, новая шыбка ўжо блішчэла ў вакне дома насупраць, як залаты зуб у роце крымінальніка.

Учора Сямён зноў прыйшоў позна — а другой гадзіне ночы, п'яны. І жонка зноў яго не пусціла ў кватэру праз дзверы. Чаму яна яго не пускала — таксама пытанне. Навошта яна кожны раз распачынала гэтую гульню з загадзя вядомым вынікам? Няўжо настолькі абрыд ёй Сямён, што яна гэткім чынам адцягвала "задавальненне" ад сустрэчы з ім, спадзеючыся, што сёння ён, нарэшце, пастукае-памацюкаецца ды пойдзе туды, адкуль прыйшоў? Жаночая псіхалогія, жаночая логіка — такія ж цёмныя, як і ўчарашняя ноч... Але — учора зноў стаяў Сямён пад вакном і прасіў-загадваў адчыніць дзверы. У гэты час па двары праходзіла ганейка п'яных падлеткаў. Пачуўшы голас зверху: "Ды ўйміце вы яго, ёлкі-маталкі!.." (проста голас, проста просьба, проста роспач нечая не да падлеткаў, вядома, скіраваная, бо іх у цемры ніхто і не бачыў), адзін з хлопцаў успрыняў словы тыя як загад, падбег да Сямёна і пырнуў яго нажом у спіну, між скабаў, пад сэрца.

Сямён захроп, і ўсе, хто не спаў, пачулі ягоныя апошнія словы: "За што?.."

"За што?.." — падхапіла жонка. "Навошта!.." — яна выбіла шыбіну і выскачыла ў двор. Але хлопцы ўжо зніклі ў цемры, змяшаліся з ёю: чорнае з чорным, быццам і не было іх.

Да раніцы ніхто з Сяргеева двара так і не заснуў. Адныя, хто з запалкамі, хто з ліхтарыкамі, выйшлі паглядзець на здарэнне, на распластанага пад вакном скрываўленага Сямёна, стаялі ля яго паўколам, гаманілі ціха, чакалі міліцыю, потым "хуткую"; іншыя, як і Сяргей, прыселі да вокнаў і назіралі за людскою мітуснёю ўнізе; астатнія варочаліся ў сваіх ложках, слухаючы шум у двары. І кожны, мусіць, не раз і не два даў свой адказ на апошняе Сямёнава пытанне, якое рэфрэнам гучала пад акном да самай раніцы.

## ФЛІ-БУС...

Бязногі пірат каціўся па асфальце на сваёй нізенькай калясцы: колы шыпелі, прымінаючы шурпатасці, а ён, быццам не заўважаючы нічога вакол сябе, ні звыклых дрэў, ні штораз новых людзей, абапіраўся і абапіраўся на зямлю дужымі рукамі, нібы веславаў — рыўкамі-штуршкамі рэзкімі і рытмічнымі, як дыска, вёз сябе наперад. Каляска прудка бегла, гарцавала на выбоінках, бы малады жарэбчык, ледзь не скідваючы са спіны свайго седака. Пірат пад'ехаў да бабулек, якія гандлявалі ля крамы семкамі, і толькі цяпер Андрэй згледзеў, што ён да таго ж, як і ўсе піраты ў кіно — аднавокі: чорны скураны кружок настолькі цесна захінаў ягонае вока, што нават калі б яно і ўмела бачыць, не змагло б з-пад таго кружка вызірнуць. Бабулькі счакалі, пакуль пірат спыніцца, і па чарзе пачалі з ім вітацца, як з даўнім знаёмцам — за руку, і нагадвала гэта не нейкую завядзёнку, а адладжаную цырымонію настолькі, што Андрэй не здзівіўся б ніколькі, калі б бабулькі пачалі зараз расшарквацца перад піратам, бы фрэйліны на бале. Захапіўшыся незвычайным відовішчам, Андрэй не адразу заўважыў, што, вітаючыся, бабулькі падаюць пірату, як жабраку, грошы. Аднак пірат не быў жабраком, бо грошы ён уважліва пералічыў і паклаў у брудна-чырвоны, ці не з піянерскага гальштука сшыты, мяшэчак, што матляўся на шнурочку пад барадой, а потым пад'ехаў да апошняе ў радзе бабулькі, якая пры ўважлівым разглядзе аказалася зусім не бабулькаю, а маленькаю дзяўчынкаю гадоў дзевяці, захутанаю ў хустку па-вясковаму — крыж-накрыж на грудзях. Пірат паставіў мяшэчак з непрададзенымі дзяўчынкай семкамі сабе між кульцяў, дзяўчынку пасадзіў на шыю і тая, каб не ўпасці, адразу ж схапілася за ягоныя чырвоныя вушы; пірат тым часам спрытна, на руках, развярнуўся і пакаціўся назад. "Дачка", — падумаў Андрэй, і бліжэйшая бабулька, злавіўшы гэты позірк, хіснула ў адказ галавою: не...

У гэты дзень пірат больш не з'яўляўся. Не выйшла гандляваць семкамі і дзяўчынка. Не было яе і заўтра, і паслязаўтра. І ейнае апошняе месца ў шэрагу бабулек, не заўважнае для нікога, для Андрэя пуставала, быццам расло там дрэўца, ды яго нехта ссек ноччу, і вось прачынаецца Андрэй ранкам, глядзіць у вакно на бабулек, а дрэўца няма; аднак ён ведае, што яно было і не забывае таго... Пірат жа штодзень падплываў да бабулек, арыстакратычна вітаўся з кожнай, хіба толькі руку не цалаваў, збіраў грошы і ўязджаў у краму, каб хвілін праз дзесяць выкаціцца адтуль з цэлафанавым пакетам, поўным нейкага начыння, заціснутым між кульцяў ног перад сабою на калясачцы, і гнаў сваё цела дамоў. Аднойчы Андрэй заўважыў, як з пакета бессаромна выглядвала рыльца пляшкі з бесказыркай на галоўцы, аднак не з ромам, а з гарэлкай. Шкло было празрыстым і празрыстая гарэлка плёхалася ў сваёй цямніцы, у сваёй турме і шукала смерці на асфальце, а не ў вантробах пірата, ледзь не выкульваючыся з пакета. Пірат заўважыў позірк Андрэя і паправіў пляшку; Андрэю стала сорамна, што ён выдаў яе, Андрэй заплакаў ад незразумелай і таму яшчэ больш крыўднай крыўды і сляза пацякла па празрыстай шыбіне адзінока, як першая кропелька прынесенага нябачнаю хмаркай дажджу. Андрэй зайздросціў пірату без імя і прозвішча. І без ног. У яго было ўсё: і першае, і другое. І трэцяе. Быў і ром у лядоўні. Не кубінскі, танненькі і пякучы ў горле, бы крапіва, а самы сапраўдны, родам з некалі вялікае марское і малое цяпер на мапе дзяржавы, радзімы піратаў і іншых вольных людзей. Але нават калі Андрэй напіўся б сапраўднага рому, а не трывіяльнай гарэліцы, калі страціў бы ногі ў самыя клубы і адно вока заклеіў, схаваў за чорным скураным кружком, калі здабыў бы сабе такую імклівую калясачку і падобныя да тынкоўных дошчачкі, каб пагардліва адпіхваць ад сябе зямлю, калі ўсе, і нават ён сам, забудуць дадзеныя бацькамі яму імя і прозвішча, — ніхто ніколі не назаве яго Піратам. Скажуць: як Пірат, бо Пірат ужо ёсць...

... І вось настаў дзень, калі Андрэй пазнаёміўся з піратам. Аказалася — у яго ўсё-ткі ёсць імя. Банальнае — Вася. А клічка — Гулівер. Хоць і марская, блізкая да марской, але ж не пірат.

Ён праязджаў паўз Андрэя. І Андрэй паклікаў яго: пірат! Ён не азваўся. Ён праімчаў міма на сваёй калясачцы, нават не зірнуўшы на голас, быццам не пачуў. Ён не ведаў, што ён — пірат. Ён быў піратам толькі для Андрэя! У жыцці яго, выявілася потым, клікалі ўсе Вася. Каб Андрэй меў такое імя пры такой знешнасці — ён бы павесіўся на першым жа слупе. Нават калясачку не адвязаўшы.

І Андрэй супакоіўся: у яго яшчэ ёсць будучыня дзеля мінулага — яму ёсць куды адступаць, ёсць куды ўпасці. І ёсць у яго імя пра запас, якое яму падабаецца, і якім ён назаве сябе сам: Пірат. І стане гэтае імя апошнім у ягоным спісе і першым сапраўдным.

Файна:

1. Пі-рат.
2. Пі-брат... 1.Кар-сар.
 2.Кар-сэр...1.Флі-буст'ер.
 2. ...

## АДЗІНОТА

На дрэве нехта жыў. Саша даўно гэта западозрыў. Таму вакно на варыўні, пад якім расло дрэва, ён ніколі не расчыняў. Той, хто жыў на дрэве, ужо адным сваім існаваннем спакушаў яго адчыніць акно, каб пазнаёміцца. Саша не зайздросціў таму, хто жыў на дрэве, а той не зайзросціў яму — яны не былі ворагамі, а значыць рана ці позна знаёмства іхняе павінна было адбыцца. І гарантыяй таму была іхняя адзінота.

Аднойчы да Сашы прыйшла жанчына. Яна была п'яная і прыйшла аддацца. Яна называла сябе курачкай, а потым лісічкай. Гэта гучала ласкава, кранальна і вабна. Хітрая лісічка пекнай курачкай прынесла сябе да Сашы, каб задаволіць сваю патрэбу ў мужчыне. Калі ў Сашы ўзнікала падобная праблема, ён таксама ішоў да яе і яна ніколі яму не адмаўляла. Нават калі была цвярозаю. Саша сябе ніяк не называў — ні пеўнікам, ні іншай птушкаю ці зверам. Ён проста спараджаў сябе. Вось такім чынам яны і дапаўнялі адно аднога, астатні час жывучы ў адзіноце пустых пакояў. Яны існавалі побач і толькі зрэдку, насуперак геаметрыі, перасякаліся іхнія паралельныя жыццёвыя дарогі.

Яна сядзела на варыўні спінаю да вакна, піла гарбату — размяклая і салодкая. Пажаданая. Той, хто жыў на дрэве, відаць, гэта адчуў. Адчуў жанчыну, якой трэба мужчына. І таму, калі яна пайшла ў пакой распранацца і класціся ў ложак, ён пастукаў галінкаю дрэва ў вакно. "Не расчыняй!" — загадаў Сашу ўнутраны голас, але на гэты раз стрымацца ён не змог. Яму карцела даведацца: хто там, хто жыве на дрэве... Ён быў не адзін дома і быў смелым.

Саша расчыніў вакно. Вячэрні вецер крутнуўся па варыўні і вынес яе пахі на вуліцу. На дрэве нікога не было. Галінка, якая шкрабнула па шыбе, матлялася перад Сашавым тварам.

І Саша зразумеў — на дрэве жыла ягоная адзінота. І ёй было адзінока без яго, а яму — без яе. Яшчэ трохі і ён мог бы звар'яцець у гэтым пакоі ад адзіноты, што жыла пад вакном...

— Гэй, — паклікала Сашу жанчына, — ты што, заснуў там?

Саша прыгадаў ейныя п'яныя вочы, слінявыя вусны, не — губы... Расчыніў лядоўню, дастаў пляшку гарэлкі, наліў поўную шклянку, выпіў і пайшоў у пакой. Але думкі, што пасяліліся ў ім, ён нават гарэлкаю выгнаць не мог: "Цяпер, калі адзінота перабралася з дрэва да мяне — як я буду жыць? Як мы будзем жыць?" Быў толькі адзін сродак пазбавіцца яе — забіць. Але забіць яе — забіць сябе...

— Што з табою? — спытала жанчына, і Саша заўважыў, што сядзіць на ложку голы і ніяк не рэагуе на ейныя ласкі.

— Я не хачу паміраць, — сказаў ён, — я хачу жыць...

— Дык жыві, — сказала жанчына, — жыві! Давай жыць разам!

"Жыць разам? — падумаў Саша. — А, можа, гэта і сапраўды самае мудрае выйсце: жыць разам..." — і адказаў:

— Давай.

## ХТО ЛЕПШ ЗА ДЗЯЦЕЙ?



**Напрыканцы лютага Маладзёжны тэатр Беларусі давядзе да ўвасаблення адметны праект, чыя задума (ідэя) належыць дырэктару Інстытута Гётэ ў Мінску спадарыні Веры Багальянц. Гэткі... калаж сямейнага жыцця ў Германіі з гасцяваннем чарнобыльскіх дзяцей... "Я сама была ў падобным становішчы, — распавядала фрау Вера. — Яшчэ дзіцем. Калі апынулася сярод запрошаных у Заходнюю Германію..."**

**Паводле спадарыні Багальянц, яе і рэжысёраў Ангеліку Штаўт і Валянціну Еранькову (а Валянціна ўжо адбыла цэлы курс у Берліне, вывучаючы нямецкую мову і побыт)цікавіць найскладаная гама пачуццяў ды адчуванняў дзяцей, якія апынаюцца ў дабрабытных спрыяльных умовах амаль раптоўна, але заўжды — з моцнымі ўражаннямі. Ужо вядома, што гэтыя ўражанні няможна вызначыць па-газетнаму прасталінейна, або адназначна назваць добрымі, станоўчымі. Адметнасці праекту надае і тое, што п'есы, як такой, не існуе — яе створыць сам спектакль. Спектакль — зусім не так званая рэабілітацыя, хоць "...бацькам цяжка, калі дзеці прыязджаюць дахаты з падарункамі... А як чакаюць самалёт — гэта цэлы спектакль..." Таму, паводле спадарыні Багальянц, падобны матэрыял няможна ставіць без нямецкага рэжысёра: "Вы не можаце (саромееецеся?) крытыкаваць наш лад жыцця, нашу манеру зносінаў, нашу атмасферу побыту...".**

**Распачатую ў леташнім снежні працу з акцёрамі Маладзёжнага тэатра, а гэта былі заняткі Ангелікі Штаут паводле Ежы Гратоўскага, працягвае Валянціна Еранькова. З тым, каб напрыканцы лютага ўдзельнікамі спектакля зрабіліся мінскія школьнікі. Бо хто лепш за дзяцей вызначыць тое, што адчуваюць дзеці?**

**Ж. Л.**

*На здымку: Ангеліка Штаўт падчас заняткаў.*

*Фота Віт. АМІНАВА*

## І ДЛЯ ПІРАГА НАГОДА



**Лістападаўская прэм'ера спектакля "Каб ведала, што прыйдзеш, спякла б пірог" паводле Б. Слэйда (назва п'есы — "Будучым годам тым самым часам") адгукнулася тым шэрагам спектакляў, якія хораша "глядзяцца" якраз на святы. І не адно з-за абяцанага пірага. Гісторыя кахання з некалькіх сустрэч, маленькая тэатральная вандроўка ў "старыя добрыя" — пяці-, шасці-, сямідзесятыя, а перадусім — выкананне Алены Дудзіч ды Аляксандра П'янзіна... Рэжысёр Андрэй Гузій, перш як прыступіцца да пастаноўкі, нагледзеў сабе ў Магілёўскім абласным драматычным тэатры вабную сямейную пару акцёраў... Гісторыя кахання сцэнічнага адметна перагукаецца з іх жыццёвым атачэннем ды варункамі. Поспех? Напэўна. Да пэўнасці ж дадаўся юбілей: на сцэну Магілёўскага тэатра Алена і Аляксандр выходзяць ужо дзесяць гадоў. Нагода да бенефісу з адметным пірагом!**

**Ж. Л.**

*На здымку: А. Дудзіч і А. П'янзін у спектаклі "Каб ведала, што прыйдзеш, спякла б пірог".*

— *Фота Вадзіма КУСТОВА*

***На заклік прэзідэнта Асацыяцыі беларускіх дамрыстаў і мандалiністаў прафесара Галіны Асмалоўскай паўдзельнічаць ва ўрачыстасцях, прысвечаных памяці Георгія Жыхарава, паступіла столькі прапаноў, што рэалізаваць іх у межах аднаго-двух канцэртаў было б немажліва. З захапленнем і радасцю адгукнуліся лепшыя аркестравыя калектывы краіны, а таксама ансамблі, салісты з Мінска, амаль з усіх куткоў Беларусі, з Масквы. І зладзіўся шматдзённы фестываль народнай музыкі.***

***Свята прайшло напрыканцы мінулага года. У ім узялі ўдзел Дзяржаўны акадэмічны аркестр імя І. Жыновіча (мастацкі кіраўнік М. Казінец, дырыжор С. Сакалоў), Аркестр народных інструментаў Беларускай акадэміі музыкі (кіраўнік С. Кафанаў), Аркестр народных інструментаў педагагічнага факультэта Беларускай акадэміі музыкі ў Магілёве (кіраўнік Л. Іваноў), Аркестр беларускіх народных інструментаў БАМ (кір. В. Валатковіч), Аркестр народных інструментаў Мінскага вучылішча мастацтваў (кір. Э. Лямбовіч), Аркестр народных інструментаў Маладзечанскага музычнага вучылішча (кір. Т. Бялькова), Аркестр народных інструментаў Мінскага музычнага вучылішча імя М. Глінкі (кір. Л. Пінько), Беларуская інструментальная капэла "Спадчына" (кір. А. Скарабагатчанка), Духавы аркестр БАМ (кір. А. Берын). А яшчэ выступіла каля трыццаці ансамбляў і некалькі дзесяткаў салістаў, у тым ліку лаўрэаты міжнародных і рэспубліканскіх конкурсаў.***

***Сярод цікавых падзей фестывалю была і навукова-практычная канферэнцыя. На ёй з дакладамі выступілі прафесары Акадэміі музыкі М. Солапаў, Г. Асмалоўская, В. Чабан, дэкан факультэта народных інструментаў Б. Сінецкі, дацэнт В. Шчарбак, дырэктар Гомельскага каледжа мастацтваў імя Н. Сакалоўскага Э. Кірыленка, выкладчык Мінскага вучылішча мастацтваў Э. Лямбовіч. Навукоўцы разгледзелі нямала праблем і прапаноў па вывучэнні і творчым ужыванні спадчыны Г. Жыхарава.***

***Падзеі фестывалю так натуральна выцякалі адна з другой, што здаваліся не толькі вынікам колішняй дзейнасці выдатнага майстра, працягам яго справы, але і яго жывым, няўгледна прысутным духам.***

# ПОДЗВІГ АСВЕТНІКА І ТВОРЦЫ

### ДА 80-ГОДДЗЯ ГЕОРГІЯ ЖЫХАРАВА — ДЫРЫЖОРА, ВЫКАНАЎЦЫ-САЛІСТА, ПЕДАГОГА

ЧЫМ ДАЛЕЙ адступаюць тыя гады, калі на Беларусі жыў і тварыў Георгій Іванавіч Жыхараў (1915—1973), тым больш упэўніваешся: вынікі ягонай працы вытрымліваюць выпрабаванне часам. Сёння ўжо мы можам са значна большай аб'ектыўнасцю і ўдзячнасцю ацаніць уклад, зроблены ім у культуру беларускага народа, у народна-інструментальнае мастацтва Беларусі.

Творчасць Жыхарава шматбаковая, выключна ёмістая, і кожную яе грань можна вывучаць, знаходзячы значныя і вечныя каштоўнасці. Але сёння з усяго іх мноства вылучу дзве: музычна-асветніцкую эфектыўнасць і беларускую накіраванасць.

Каштоўнасць асветніцкай дзейнасці Жыхарава вынікае перш за ўсё з яго мастацкага светаўспрымання, ярка акрэсленых музычна-эстэтычных поглядаў. Адсюль — і яго рэпертуарныя прыхільнасці: сусветная класіка, лепшыя творы сучасных кампазітараў, народна-інструментальная класіка (В. Андрэеў, М.Фамін, М. Будашкін, С. Васіленка), творы беларускіх кампазітараў, народная музыка.

Устойлівая жыццяздольнасць створанага Жыхаравым рэпертуару грунтуецца на высокім прафесіяналізме ягоных апрацовак, інструментовак, пералажэнняў, рэдакцый партытур і сольных кампазіцый.

Яго творчае ўздзеянне функцыянальна было накіравана і на вучнёўскую моладзь, што прыйшла ў музыку з самых розных сацыяльных колаў і куткоў Беларусі, і на шырокую слухацкую аўдыторыю. І ў тым і ў другім выпадку яно было масавае. Спалучаючы працу ва ўсіх музычна-адукацыйных звеннях (у кансерваторыі, музычным вучылішчы і дзіцячай музычнай школе), ён кіраваў прафесійным калектывам на Беларускім радыё.

Калі ўлічыць спецыяльныя домрава-балалаечныя класы, ансамблі і ўрокі інструментоўкі, якія вёў Жыхараў, то можна сцвярджаць, што пад яго ўплывам фарміравалася і дзейнічала адначасова звыш дзесятка калектываў. Акрамя таго, ён загадваў кафедрай і аддзяленнем народных інструментаў у Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі і Мінскім музычным вучылішчы.

Уявіце нагрузку, якую Георгій Іванавіч лічыў для сябе нармальнай: вядзенне аркестраў народных інструментаў у БДК і баянных аркестраў у ММВ, у ДМШ N 1 і N 2; аркестра балалаек у ММВ і тамсама — цымбальнага аркестра; Секстэта домраў Беларускага радыё; зводных аркестраў на рэспубліканскіх аглядах мастацкай самадзейнасці; і пазней — Актэта балалаек выкладчыкаў БДК і ММВ. Усе гэтыя справы выконваліся на роўным высокім узроўні, выключна арганізавана і зладжана.

На рэпетыцыях Жыхараў ствараў атмасферу сабранасці і адказнасці ўласнай пунктуальнасцю, знешнім сваім выглядам. Здзіўляў энергіяй, дынамікай працы з аркестрам і яе плённасцю. Ён чуў партытуру ад першага пульта да дальніх куткоў аркестра, выяўляў іскрысты выканаўчы тэмперамент. Мноства аркестрантаў, асабліва навучэнцы музычнага вучылішча і школ, гуртавалася ў інтэнсіўным навучальна-творчым працэсе і актыўна спасцігала шэдэўры класікі ды народнай творчасці, набывала прафесійныя веды; пашыраючы стылёвы кругагляд, назапашвала мастацкія каштоўнасці.

Хтосьці можа ўсміхнуцца і падумаць: мабыць, вялікая нагрузка, мноства пасад — вынік прагматычных меркаванняў, матэрыяльнай зацікаўленасці? Не! Жыхараў быў бяссрэбранікам, абыякавым да камфорту і раскошы, чужым хцівасці, тым больш рвацтву. Ён грэбліва гаварыў пра гэткія людскія схільнасці. Хто бываў у яго дома, памятаюць: сабраны са струганых дошак стэлаж уздоўж сцяны, з кута ў кут набіты рукапісамі і кнігамі, просты круглы стол, шафа і крэслы. Прычым усё гэта не выклікала адчуванне беднасці, а здавалася нейкай аскетычнай нормай побыту служыцеля сваёй справы.

Матывы яго шматстайнай дзейнасці былі іншыя. Жыхарава вабілі новыя грані, незвычайныя фарбы музычнай выразнасці і магчымасці яго ўласнага самавыказвання. Здаецца, яму заўсёды іх было мала. Ён смела абнаўляў інструментальныя склады, паспяхова эксперыментаваў, развіваў знойдзенае, і калі б жыў даўжэй, — многае, сёння ўжо страчанае, захавалася б і было развіта.

ЯК СТВАРАЛЬНІК культуры нацыянальнага маштабу, ён, магчыма, інтуітыўна, ды зусім пэўна ўсведамляў, што грамадская роля таго або іншага інструмента куды больш эфектыўна праяўляецца ў калектыўнай форме выканальніцтва, што аркестр — гэта СІМВАЛ МАСАВАСЦІ інструмента. Таму ў яго існаваў не толькі змяшаны склад аркестра, але і аднародныя склады: балалаечны, баянны, унісон балалаек, актэт балалаек, септэт, секстэт домраў і г. д.



Усё гэта набывала пашыранае асветніцкае ўздзеянне.

Яму, як нікому іншаму, удавалася прыцягнуць да народных інструментаў масавую слухацкую аўдыторыю. Гэта не мела прэцэдэнта! Тут Жыхараў, што называецца, варочаў цэлымі пластамі. Кожны яго калектыў ажыццяўляў свой план канцэртных выступленняў. Штогод і неаднаразова на год паказваўся па тэлебачанні, запісваўся і трансліраваўся па радыё, выступаў на ўрадавых і філарманічных канцэртах, незлічоных справаздачных мерапрыемствах, прысвечаных В. Андрэеву, М. Белабародаву, М. Фаміну, М. Осіпаву. А колькі было шэфскіх выступленняў у гарадскіх парках, на стадыёнах, у войску, у калгасах, вытворчых калектывах і навучальных установах!

Жыхараў — з'ява унікальная. Цікавы ён і тым, што пры такой творчай інтэнсіўнасці не дазволіў сабе пакарыстацца чужымі партытурамі або аркестравымі галасамі. Усё гэта было напісана ягонай рукой, ягоным асаблівым, каліграфічным адмысловым почыркам. Нават друкаваныя выданні, якія ляжалі ў яго на пульце, былі скрупулёзна прафесійна адрэдагаваныя, часам істотна, і толькі праведзеныя праз уласныя гукавыя ўяўленні, выносіліся ў творчы ўжытак.

Стылістыка інструментальных складаў таксама строга вытрымлівалася. Жыхараў востра адчуваў ЭКЛЕКТЫКУ і не дапускаў яе ў якім бы там ні было выглядзе (скажам, арфу, якая несупынна гучыць у баянна-домравым складзе). Такую асобасна-творчую праяву лічу класічным узорам мастакоўскай прынцыповасці і стылёвай цэласнасці.

Якое ж мастацкае светаразуменне і свядомасць Георгія Жыхарава?

Пытанне гэта непазбежнае, бо яго ўплывовая асоба была тым ядром, вакол якога адбываліся ўсе падзеі і ў выхаваўча-адукацыйным працэсе, і ў развіцці народна-інструментальнага мастацтва Беларусі ў цэлым.

Адказ, вядома, трэба шукаць у той рэпертуарнай спадчыне, якую пакінуў пасля сябе музыкант. А гэта — каля 300 назваў: інструментоўкі і адрэдагаваныя партытуры. Усім гэтым матэрыялам у многім вызначаўся генезіс музычных густаў і фарміраванне прафесійнага майстэрства выканаўцаў на народных інструментах. Тут

прадстаўлены і ўсе эпохі, і разнастайнасць нацыянальных стыляў: Карэлі, Дакен, Гендэль, Бах; Глюк, Мегюль, Гайдн, Моцарт, Бетховен; Вебер, Шуман, Шуберт, Мендэльсон, Вагнер, Вердзі, Паганіні, Ліст, Грыг, Гуно; Варламаў, Гурылёў, Даргамыжскі, Глінка, Рубінштэйн, Мусаргскі, Чайкоўскі, Рахманінаў, Рымскі-Корсакаў, Лядаў, Калліннікаў, Пракоф'еў, Шастаковіч, Васіленка, Грачанінаў, Кабалеўскі; Вяняўскі, Агінскі, Дворжак, Паліяшвілі, Спендыяраў, Куліеў, Дварыёнас, Дзініку, Мяскоў, Холмінаў... І гэта, зразумела, далёка не ўсе! Вось яна, неабходная ў фарміраванні мастацка-густавых арыенціраў моладзі, шырыня пазнання.

Аднак заняткі ў Жыхарава не толькі забяспечвалі актыўнае вывучэнне музычнай літаратуры і давалі прафесійную базу кіраўнікам народных інструментаў. Яны абуджалі велізарную цікавасць да дырыжорскай прафесіі, пацвярджалі яе прэстыжнасць, захаплялі аркестрам. Не дзіва, што многія выканаўцы жыхараўскіх аркестраў станавіліся кіраўнікамі прафесійных, вучэбных і самадзейных калектываў.

Плёнам вучэбнай работы Жыхарава была не толькі падрыхтоўка прафесіяналаў. Дзякуючы ягонаму выхаванню, стваралася вялізная слухацкая аўдыторыя. Помніцца, як канцэртная зала філармоніі ўшчыльную напаўнялася студэнтамі кансерваторыі, музычнага вучылішча, калі анансаваліся канцэрты В. Дуброўскага, М. Нерсесяна, гастралёраў-дырыжораў.

Ва ўсім гэтым відавочны важнейшы сацыяльны эфект. Тыя нямногія музычныя сацыёлагі, хто быў ахоплены сумненнямі ў пазітыўнай культурнай місіі народных інструментаў, забывалі, што моцныя спецыялісты, падрыхтаваныя вышэйшай школай, не толькі майстры свайго жанру: іх дзейнасць мае плён і ў агульнанацыянальным працэсе развіцця музычнай культуры. Развіваючы сваё майстэрства, яны служаць справе памнажэння слухацкай аўдыторыі і для іншых, гістарычна больш сталых відаў музычнай творчасці.

**У ШМАТГРАННАЙ** творчай дзейнасці Жыхарава заўсёды адчувалася яго спакроўленасць з беларускай нацыянальнай культурай. Здольны дырыжор, ён па-майстэрску валодаў домрай і балалайкай, і адным з яго глыбокіх памкненняў было зрабіць іх беларускімі інструментамі. Бо ступень нацыянальнай прыналежнасці музычнага інструмента вызначаецца не месцам яго вынаходніцтва і вырабу, а зместам творчасці. (Доказаў таго гісторыя музыкі ведае шмат). І гэта сваё імкненне Жыхараў ажыццяўляў праз стварэнне беларускага рэпертуару, які быў стрыжнем яго рэпертуарнай палітыкі. На беларускім фальклорным грунце ў яго пісьмовай спадчыне прадстаўлены практычна ўсе жанры. Жыхараў добра ведаў фальклор і сам часта звяртаўся да яго, апрацоўваючы народныя песні, інструментаваў апрацоўкі і арыгінальныя творы беларускіх кампазітараў.

Сярод найбольш яркіх апрацовак Жыхарава — танцы "Мяцеліца", "Мікіта", песня "Куранты", "Беларуская полька", танцы "Бычок", "Юрачка", песня "І з далёкіх і з краёў"; сярод інструментовак — "Антон маладзенькі" П.Падкавырава, "Лявоніха", "Прайшло лета краснае" А. Туранкова, "Карагодны напеў" У. Алоўнікава, "Беларуская полька", "Як крыніца цячэ" Р.Пуксти, "Вянок беларускіх песень" Д. Камінскага, апрацоўкі Д. Захара, А. Клумава, Л.Маркевіча. Вялікае і важнае месца займаюць пералажэнні твораў беларускіх кампазітараў: Сімфаньеты М. Чуркіна, Цымбальнага канцэрта Д.Камінскага. "Верасоў" Р. Пуксти, Сюіты для аркестра І.Ронькіна, п'ес С.Палонскага, В.Войціка, Я. Глебава, П. Падкавырава, М. Аладава, Л.Маркевіча, Д.Захара, А.Багатырова, У. Алоўнікава, песень М.Мацісона, І.Любана, П. Падкавырава, У. Алоўнікава.

Усё новае і рэтраспектыўнае ў беларускай музыцы, што карысталася папулярнасцю, прайшло праз творчую лабараторыю Г. Жыхарава і станавілася яшчэ больш папулярным. Такім шляхам ажыццяўлялася напаўненне народна-інструментальнага мастацтва сакавітым беларускім музычна-інтанацыйным зместам. На жаль, гэта тэндэнцыя, так выразна і ёміста вылучаная Жыхаравым, значна паблякла пасля ягонай смерці.

Ацэньваючы тытанічны ўклад Георгія Жыхарава ў беларускую нацыянальную культуру, цяжка ўявіць наша сёння без нядаўняга мінулага. Жыхараў — надзея і апора яго вучняў. Яны часта звяртаюцца да яго ў думках і звяраюць свае рашэнні з магчымымі рашэннямі настаўніка. Ёсць усе падставы назваць яго місіянерам у народна-інструментальным мастацтве Беларусі. Яго роля велізарная і заслугоўвае высокай не толькі прафесійнай, а і этычнай і маральнай ацэнкі.

Пры жыцці, на жаль, дзейнасць Георгія Іванавіча Жыхарава не была ацэнена па вартасці. Думаецца, было б дарэчы ганараваць яго (пасмяротна) пачэсным званнем, адкрыць у класе, дзе ён працаваў, мемарыяльны знак і надаць яго імя прафесійнаму калектыву, напрыклад, на Рэспубліканскім радыё або ў Беларускай акадэміі музыкі. Афіцыйныя атрыбуты пашаны былі б не лішнія. Яны толькі пацвердзілі б добрую памяць пра Георгія Іванавіча Жыхарава ў народзе, у сям'і беларускіх музыкантаў. А такая памяць — самая высокая адзнака майстру мастацтва.

**Валянцін ЧАБАН,**
**прафесар, кандыдат мастацтвазнаўства**

*На здымках: Георгій ЖЫХАРАЎ; Секстэт домраў Беларускага радыё пад кіраўніцтвам Г. ЖЫХАРАВА (трэці злева).*

Віншуем!

# У СУТНАСНЫМ РАЗУМЕННІ МАСТАЦТВА...

НЕЮБІЛЕЙНЫЯ НАТАТКІ



***Спаўняецца 80 гадоў старэйшаму беларускаму тэатразнаўцу, член-карэспандэнту АН Беларусі, доктару мастацтвазнаўства, прафесару Уладзіміру Іванавічу Няфёду. Такі паважны ўзрост мала стасуецца да гэтага заўсёды сабранага, энергічнага чалавека. Аддаўшы шмат год педагагічнай, навуковай і грамадскай дзейнасці, ён і сёння знаходзіцца ў добрай творчай форме і з'яўляецца супрацоўнікам Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К. Крапівы АН РБ.***

Пісаць пра Уладзіміра Іванавіча мне асабіста лёгка і адначасова даволі цяжка. Лёгка таму, што не адно дзесяцігоддзе працую побач з ім і, здаецца, добра яго ведаю. Цяжка ж таму, што Уладзімір Іванавіч — асоба складаная, неардынарная і менавіта гэтым тлумачыцца рознае, часам палярна супрацьлеглае стаўленне да яго творчасці. У наш час, калі пераасэнсоўваецца айчынная гісторыя, у тым ліку і гісторыя мастацтва, стала амаль што модай перакрэсліваць былыя набыткі тэатразнаўства, абвінавачваючы аўтараў у састарэласці поглядаў і кансерватызме. Шчыра кажучы, мяне заўсёды здзіўляў такі спажывецкі, дакладней, кан'юнктурны падыход да чужой працы, асабліва тых, хто пакуль што яшчэ ніяк не заявіў пра сябе на ніве навукі.

У. Няфёд для мяне, многіх маіх калег і дзеячаў сцэны быў і застаецца буйнейшым гісторыкам беларускага тэатра. І той факт, што сёння нарэшце знята забарона з публікацый Ф. Аляхновіча, У. Сядуры, А. Калубовіча, якія з іншых пазіцый асвятляюць нашу тэатральную гісторыю, ніколькі не прыніжае навуковай значнасці прац У. Няфёда. Дарэчы, калі пагартаць кнігі пра тэатр А, Некрашэвіча, Я. Рамановіча, С. Геца, выдадзеныя ў 30-я гг., то міжволі схамянешся ад іх вульгарна-сацыялагічнай тэрміналогіі. Між тым менавіта гэтыя кнігі сваёй багатай фактaлогіяй дапамаглі мне аднавіць рэпертуар тэатра імя Я. Купалы 20-х гг., за што я вельмі ўдзячна памянёным аўтарам.

Любая гістарычная праца, акрамя аўтарскага каментарыя, насычана фактамі, якія і ўяўляюць, на мой погляд, найвышэйшую каштоўнасць. Што ж тычыцца ідэалагічнага антуражу, то ў гэтым плане нават цікава параўнаць кнігі У. Няфёда і таго ж У. Сядуры-Глыбіннага. Першы аналізаваў гісторыю беларускага тэатра ў, як прынята цяпер гаварыць, несвабоднай краіне, таму лейтматывам яго даследаванняў становіцца "кіруючая роля камуністычнай партыі". Другі выдаваў сваю гістарычную версію беларускага тэатра ў Амерыцы — краіне быццам бы найвышэйшай дэмакратыі і свабоды, тым не менш, праца літаральна прасякнута выразамі, накшталт "савецкі тэрор" і г. д. Такім чынам, з аднаго боку — "кіруючая роля партыі", з другога — "савецкія органы і камуністычная партыя настойліва падвяргалі тэатр схематычнаму спрашчэнню". Як па мне, дык хрэн за рэдзьку не саладзейшы. Усе мы — дзеці пэўнага часу і пэўнай прасторы. Да таго ж, як ні спакусліва абмежаваць мастацтва пракруставым ложам ідэалагічных выкладак, яно, на шчасце, існуе і развіваецца па сваіх законах. Таму, думаецца, будучыя (і, спадзяюся, свабодныя) гісторыкі адкінуць за непатрэбнасцю любыя палітычныя клішэ і з удзячнасцю пакарыстаюцца ўсёй навуковай тэатразнаўчай спадчынай, створанай на Беларусі і за яе межамі. У тым ліку і кнігамі У. Няфёда.

Акрамя гісторыі тэатра, Уладзімір Іванавіч шмат год займаўся тэатральнай крытыкай. Многія лічылі яго чалавекам жорсткім, які не мяняе сваіх поглядаў. Бадай што так. Разам з тым ён ніколі не прыстасоўваўся да чужых думак і абставін. Заўсёды выклікала павагу тое, што У. Няфёда проста немагчыма было ўявіць у ролі "кішэннага крытыка", а яго меркаванні, калі нават іх не падзяляў, уражвалі шчырасцю і перакананасцю. Змагар па прыродзе, ён ніколі не хаваўся за двухсэнсоўныя фармуліроўкі і тым больш за подпіс ананіма. Заўсёды выказваў свае думкі смела і адкрыта. Гэта і дазваляе сённяшнім міфатворцам ствараць палохаючы вобраз крытыка-забаронцы. Між тым, не ведаю, на жаль альбо на радасць, крытыка на Беларусі, калі мець на ўвазе пасляваенны перыяд, ніколі не выконвала забароннай функцыі. У адрозненне ад той жа Амерыкі, дзе адзін адмоўны артыкул можа перакрэсліць лёс спектакля. У нас жа на маёй памяці не было ніводнай пастаноўкі, якую б "зарэзала" крытычная рэцэнзія. Нават шматгадовыя баталіі ў друку ніяк не паўплывалі на сцэнічнае жыццё той жа "Паўлінкі" купалаўцаў. Проста сёння шмат каго прываблівае вобраз пакутніка-дысідэнта, ну а калі ёсць ахвяра, то павінен быць і кат. Усё гэта падаецца мне не вельмі прыстойнай гульнёй, якая ні да навукі, ні да мастацтва не мае ніякіх адносін.

На працягу доўгага супрацоўніцтва паміж мною і У. Няфёдам раз-пораз узнікалі канфліктныя сітуацыі, калі нашы погляды разыходзіліся і мы не маглі паразумецца. Аднак гэта не перашкаджала паважліва ставіцца да апанента і захоўваць добрыя чалавечыя дачыненні. Магчыма, таму, што ў сутнасным, карэнным разуменні высокага прадвызначэння мастацтва мы былі і застаёмся аднадумцамі. Я асабліва адчуваю гэта сёння, калі на сцэне пануе цемра і ўсёдазволенасць, калі размыты маральныя крытэрыі і гаварыць пра гэта лічыцца амаль што непрыстойным. У такія хвіліны я востра адчуваю адсутнасць у нашай крытыцы цвёрдага слова У. Няфёда, які заўсёды меў мужнасць называць рэчы сваімі імёнамі.

А тым часам наш юбіляр не перастае здзіўляць сваіх калег працоўнай энергіяй і творчымі планамі. Няма патрэбы пералічваць усе друкаваныя працы У. Няфёда, іх добра ведаюць беларускія навукоўцы і дзеячы сцэны. Адно нагадаю, нягледзячы на цяжкасці, толькі на пачатку 90-х гг. выйшлі яго кнігі "Мікалай Кавязін. Жыццё і творчасць" і "Ігнат Буйніцкі — бацька беларускага тэатра". Выйшла з друку манаграфія пра Францішка Аляхновіча. Акрамя таго, ён завяршае працу над успамінамі, дзе з гумарам, а часам і з сумам прыгадвае сустрэчы са знакамітымі дзеячамі культуры, з якімі пашчасціла сустрэцца на жыццёвых скрыжаваннях. Ад свайго імя і імя маіх калег па інстытуце я жадаю Уладзіміру Іванавічу моцнага здароўя, доўгіх год жыцця, спаўнення ўсіх творчых задум.

**Тамара ГАРОБЧАНКА**

# СТАЛІЧНЫЯ КАНЦЭРТЫ "НЕСТАЛІЧНЫХ" МУЗЫКАЎ

Пры канцы года два канцэрты ў сталіцы далі артысты Гродзенскай гарадской капэлы. Упершыню гэты арыгінальны творчы калектыў, які "пад адным дахам" злучае і хор, і аркестр, выступіў у Мінску ў 1993 годзе. Мінула зусім нямнога часу, і ў творчай біяграфіі маладой музыканцкай суполкі з'явіліся гастролі ў краіны Еўропы, удзел у міжнародных харавых фестывалях і вось — другі візіт у Мінск. Мастацкае кіраўніцтва Гродзенскай гарадской капэлы ажыццяўляе вядомы кампазітар Андрэй Бандарэнка, таму зразумела, што ягоныя творы склалі аснову абедзвюх праграм: у касцёле св. Роха прайшоў канцэрт хору пад кіраўніцтвам Ларысы Іконнікавай, а ў Вялікай зале філармоніі капэла выступіла ў поўным складзе.

Дарэчы, на галоўнай канцэртнай пляцоўцы краіны крыху раней адбылася яшчэ адна сустрэча з "несталічнымі" музыкантамі, якія апошнім часам прыкметна ўплываюць на культурнае жыццё абласных гарадоў. Упершыню ў Мінску адбылося выступленне Камернага хору Гомельскай абласной філармоніі (мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор Алена Сакалова, дырыжор Яўген Хлус) і Камернага аркестра Брэсцкай абласной філармоніі (мастацкі кіраўнік і дырыжор Аляксандр Мартыненка).

У адрозненне ад гродзенскіх музыкантаў, пра якіх ужо неаднойчы пісаў "ЛіМ", гомельцы ды брастаўчане амаль незнаёмыя нашым чытачам, дый мінскай публіцы. І проста прыкра, што публіка не пайшла на гэта новае музычнае знаёмства (мо з-за кепскай рэкламы?): у зале было, мякка кажучы, пуставата. Затое прыйшлі сапраўдныя "балельшчыкі" з ліку выкладчыкаў Акадэміі музыкі, сталічных выканаўцаў, дзеячаў культуры: воплескі ладзіліся гарачыя, "брава!" гучала магутна.

Гамяльчане паказалі рэдкасны прыклад камернага харавога спявання, калі вызначэнне "камерны хор" адпавядае не проста малой колькасці яго ўдзельнікаў, а самой культуры, манеры выканання. Высакародна-стрыманым стылем дырыгавання ўразіла хормайстар А. Сакалова. Праграму ўпрыгожылі галасы адметных салістаў — Галіны Паўлянок ды Міхаіла Пухальскага.

Сваім басам "пахваліліся" і брастаўчане: саліст камернага аркестра Фёдар Богдан выканаў рэчытатыў і арыю з оперы Г. Гендэля "Ксеркс" ды знакамітую арыю галоўнага героя Моцартавага "Вяселля Фігара". А ў рэпертуары Камернага аркестра (які сваім кампактным складам нагадваў ансамбль) пад кіраўніцтвам элегантнага маэстра А. Мартыненкі найбольш удалым падалося выкананне II і III частак Зальцбургскай сімфоніі В. Моцарта.

Зразумела, калектывы-госці выступалі па чарзе. Але другое аддзяленне канцэрта завяршылася сюрпрызам: "Missa brevis" В. Моцарта ў натхнёным выкананні музыкантаў, паяднаных у "гомельска-брэсцкую капэлу", пад кіраўніцтвам А. Мартыненкі.

**С. Б.**

# ВАЛЯНЦІНЕ КУЛЯШОВАЙ — 60



Валянціна Куляшова — дачка народнага паэта Беларусі Аркадзя Куляшова. У 1958 годзе скончыла філалагічны факультэт Маскоўскага дзяржаўнага універсітэта імя М. В. Ламаносава. Працавала ў Беларускім таварыстве дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі, у Інстытуце мовазнаўства імя Якуба Коласа Акадэміі навук Беларусі. З 1960 года некаторы час жыла ў Балгарыі — у Сафіі, працавала настаўніцай, вучылася ў аспірантуры Сафійскага універсітэта імя К. Охрыдскага, была рэдактарам-перакладчыкам на радыё. У Мінск вярнулася ў 1967 годзе. Працавала выкладчыкам Белдзяржуніверсітэта, старшым рэдактарам на тэлебачанні, загадчыкам творчага аддзела рэспубліканскага Дома работнікаў мастацтва. Літаратурную працу пачала ў 1967 годзе. Перакладае з балгарскай, польскай на рускую і беларускую мовы, а таксама з беларускай на рускую.

Аўтар аповесці-эсэ з элементамі літаратуразнаўства "Лясному рэху праўду раскажу...", са старонак якой паўстае воблік А. Куляшова — чалавека, грамадзяніна, творцы.

В. Куляшова склала "Анталогію беларускага апавядання", што ў 1968 годзе выйшла ў Сафіі на балгарскай мове, фотаальбом "Аркадзь Куляшоў" (1985), кнігу А. Куляшова "Маналог" (1989), іншыя выданні яго твораў.

З днём нараджэння, шаноўная Валянціна Аркадзьеўна! Нязменных поспехаў Вам у жыцці і творчасці!

# ФАЛЬКЛАРЫСТЫКА СТАЛА ЛЁСАМ

лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі Антона Гурскага. А нарадзіўся ён на надзіва шчодрай на таленты капыльскай зямлі, у вёсцы Свінка (цяпер Лугавая) 60 гадоў назад. У 1959 годзе атрымаў вышэйшую адукацыю і пачаў працаваць у сектары фальклору Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук Беларусі.

На гэты час і прыпадае яго захапленне фальклорам. Шматлікія навуковыя экспедыцыі прынеслі даследчыку жаданы плён. Менавіта дзякуючы Антону Іванавічу з'явіліся чатыры тамы ў знакамітай серыі "Беларуская народная творчасць" — "Загадкі" (1972), "Зімовыя песні" (1975), "Легенды і паданні" (1983), "Земляробчы каляндар" (1990).

Антон Гурскі не толькі запісвае фальклор, ён яго ўдумліва вывучае, абагульняе, асэнсоўвае. Аб гэтым, у прыватнасці, сведчаць такія яго манаграфіі,як "Зімовая паэзія беларусаў" (1980), "З любоўю да народа" (1989), "Тайны народнай песні (1994).

А яшчэ Антон Іванавіч — захоплены, удумлівы прапагандыст вусна-паэтычнай творчасці беларускага народа. А. Гурскі вельмі шмат робіць, каб да фальклору як мага раней далучаліся дзеці, каб адчувалі яны ўсё яго хараство і непаўторнасць. Ім складзены такія зборнікі, як "Сакрэт шчасця", "Бяздоннае багацце", "Музыка-чарадзей", "Самае галоўнае" і іншыя.

Віншуем Антона Іванавіча з 60-годдзем! Жадаем яму далейшых поспехаў у жыцці і навуковай дзейнасці!

Паэзія

Віктар ШНІП



## ПЫЛ

### 1

пыл гэта цемра
якую разбіў вецер
іападае пыл
як шэры снег
з аблокаў вечнасці
зацямняючы шыбы
і растаючы ў вадзе
пыл знікае
як падпаленая ноч

### 2

пыл гэта святло
якое выпраменьвае
смерць
і я іду насустрач яму
каб стаўшы пылам
узляцець над цемрай
над пылам
з якога ўзнікла жыццё

### 3

пыл гэта цень ад вогнішча
на якім згарае ерэтык
праклінаючы інквізіцыю
і хаваецца ў цень
мая Айчына
і ляціць пыл у нашы вочы

### 4

пыл гэта кроў мёртвага д'ябла
і мы п'ём гэтую кроў
забываючыся пра святое
і тонем у гэтай крыві
і з'яўляемся з яе
гаворачы што ўсё пыл

### 5

пыл гэта агонь
якому не моляцца
які з'яўляецца там
дзе ёсць мы і дзе нас няма
пыл гэта вечны агонь
на магілах нашых

## 6.1. ЦЕМРА

у цемры пылу
ідзём абуджаючы цемру
і плыве яна над зямлёй
як шлях у небыццё
як апошняя хмара
з якой ніколі
не пральецца дождж

## 7.2. СВЯТЛО

пылам святла
свецяцца купалы храмаў
і пылам святла
асляпляюцца анёлы
якія вяртаючыся ў неба
не забіраюць нас
пакідаючы нас у святле пылу
за якім невядома што будзе
ці цемра ці агонь

## 8.3.ЦЕНЬ

цень пылу
як цень д'ябла
пралятае праз нас
і цень застаецца
як апошні след Хрыста

## 9.4.КРОЎ

і кроў ператворыцца ў пыл
і пыл ператворыцца
ў кроў
і пральецца праз сонца
як праз рану
у той свет
дзе няма крыві

## 10.5. АГОНЬ

і агонь пылу патухне
і стане цёмна
як было напачатку

## ПЕНЬ

пень кропка
пень згублены зуб жывёлы
якія ў казках
якіх мы ўжо даўно не расказваем
і жыве ў пні рэха
як у пакінутай вежы прывід
пень трон лесавіка
на які любяць прысесці вандроўнікі
і забыўшыся
вяртаюцца вяртаюцца
пень мішэнь
у якую страляюць страляюць нячысцікі
і трапляюць у людзей трапляюць
і сварацца людзі сварацца
гаворачы адзін на аднаго гаворачы
ты дурны як пень як пень
пень прыступка лесвіцы
якая вядзе ў пустэльню пустэльню
пустэльню
і мы абходзім аб'язджаем пень
не разумеючы што яго нельга нельга
ні абысці ні аб'ехаць аб'ехаць
і мы не любім пнёў не любім
і мы баімся пнёў баімся
і мы пакланяемся пням пакланяемся
і гаворым пню што ён дрэва
але пень застаецца пнём
і толькі мурашкі мурашкі мурашкі
бачаць у пні зруб сваёй хаты

## КОМІН

і стаіць хата сярод поля
і ў яе на страсе комін
як купіна на балоце
у якім жывуць чэрці
і залятаюць у комін вятры
і наглытаўшыся дыму
завываючы ўцякаюць прэч
комін гэта калодзеж
на дне якога ляжыць золата агню
калодзеж з якога зоркі чэрпаюць цяпло
ля коміна як ля чорнай вежы
як разбойнікі гуляюць каты
і садзяцца на комін птушкі
як на Ноеў каўчэг
і злуецца пярун
і трапляючы ў комін
ён трапляе ў цмока
якому даўно адсеклі галаву
і якога цяпер ніхто не баіцца
і які ператвараўшыся ў печ
стаіць сярод хаты

## ЗДРАДА

яна пільнуе
калі не на кожным кроку
то амаль на кожным скрыжаванні
цемры і святла святла і цемры
здрада радуецца
як воўк які апусціў у палонку хвост
і ловіць рыбу
здрада выспявае ў здрадніку
як атрута ў змяі
здрадай ратуюцца хіжыя
як смерцю ратуюцца вольныя
здрада як зумкая муха
прысутнічае на тайнай вячэры
здрада гэта трэшчына ў сасудзе
у якім збіраюць захоўваць
жывую ваду
здрада гэта ўсмешка д'ябла
і задаволены здраднік
атрымаўшы сваё
ходзіць сярод нас
і вітаецца з намі
і сядзіць за адным сталом
гаворачы нам
што мы таксама не святыя
здрада гэта дым над Айчынай
у якім сонца
як пацалунак Іуды

## КОШ

як лапаць сярод ботаў
сярод вядзёр у сенцах
ганарліва разадзьмуўшы бакі
стаіць кош
кош гэта гняздоўе
у якое восенню злятаюцца
спелыя яблыкі
кош дзіравы човен
які кожную зіму
рамантуюць павукі
марачы пра падарожжы
кош ведзьміна калыска
якая прываблівае да сябе
і палохае
кош соннае перапляценне змяюк
якія ў любы момант
могуць прачнуцца і ўспомніць
хто яны
і ляжыць кош у сенцах
і спіць у ім чорны кот
як чорная перліна ў ракавінцы
на дне вясковага жыцця

## СТРАЛА

страла стрэлка гадзінніка
які заўсёды паказвае
толькі гадзіну смерці
страла пяро
з крыла адзінокага цмока
і ляціць страла
як патухлая маланка
несучы на сваім вастрыі
кропку для сумнай балады
пра смелага воя
і ляціць страла
і хаваюся я ад стралы
як ад свайго лёсу
і ляціць страла
як расколіна ў сасудзе дня
з якога камусьці болей не піць
ды я чакаю стралу
але пасланую Купідонам

## РУЖА

ружа застыглы выбух святла
да якога злятаюцца пчолы
і збіраюць у ім салодкае золата
ружа чырвоны ліхтар
на зялёнай вуліцы сада
дзе на яблынях спее спакуса
ружа гэта пацалунак анёла
першы і апошні
і цвіце ружа
як водбліск зоркі Венеры
і я праходзячы ля ружы
праходжу як ля варотаў у рай

## НАРА

нара мае свой нораў
і ныраючы ў зямлю
нара не баіцца згубіцца ў цемры
яна жыве цемрай
і не наракае на свой лёс
і хто трапляе ў нару
той робіцца ці яе гаспадаром
ці яе смяротнікам
і жыве ў нары крот
які не бачыць сонца
але які марыць жаніцца
на Дзюймовачцы
нара гэта змяя
якая з'ела сама сябе
нара гэта шлях
які я не магу прайсці
не стаўшы слімаком

## ЗІМА

зіма гэта святло
якое як бог сышло на зямлю
святло не вечнае як снег
у якім яно існуе
як сонца ў аблоках
зіма гэта сцюдзёны агонь
у якім як чэрці ў пекле
мяцеліцы і вятры
агонь у якім згарае
восеньская самота
агонь у якім выплаўляецца
вяснавое срэбра вады
і я праходжу праз гэты агонь
як праз свой цень
зіма гэта дым
як дым Айчыны
і ў ім губляюцца
першыя і апошнія словы
як дванаццаці апосталаў
дванаццаці месяцаў
і знікае гэты дым у вечнасці
як вада ў пяску
зіма гэта сон
які сніцца сонцу
дзе чорныя вароны
попел
які пераносіцца ветрам
з аднаго берага часу на другі
і сніцца мне гэты сон
як пацалунак смерці
зіма гэта белы цень
чорнага неба
дзе кожны з нас пракладае
свой Млечны Шлях
цень якога чакаюць і баяцца
і прыходзіць гэты цень
як дзень апошні
за якім пачатак
зіма гэта люстэрка
у якім я не бачу сябе

я нямала здзівіўся, пачуўшы п'янаватае на ўсю вуліцу:

**...И крепко же, братцы, в селеньи одном**
**В ту пору любил я девчонку...**

Гарлаў пабіраха. З твару разанскі, пензенскі, самарскі русак. З тоўста перабінтаванымі, як цяпер бачу, пальцамі. Не пашэнціла, як адкаркоўваў пляшку? Якім ветрам, якім фартэлем латарэі, што завецца лёсам, яго закінула на зямлю, у расійскай мінуласці наўрад ці паміnанyю ім без мацюкоў?

Ды ў Ерусаліме прыцягнуў маю ўвагу пабіраха мадэрнізаванай мадэлі. Апрануты на манер статыста з імпрэзы на антычную тэму — у туніку і фольгавы шлем рымскага воіна, — ён арганічна ўпісваўся ў старажытнае навокал. З імітаванай пад старажытную ж лірай спяваў на іўрыце былiннае, і бляшанка перад ім пуставала непадоўгу.

На зямлі ён, Святы і Вечны горад. Зямным тут аказваецца нібы нанебнае біблейскае — да роўнага біблейскаму ўзнімаецца зямное.

Пройдуць стагоддзі, звякуюць сваё пакаленні — наша, наступнае, церазнаступнае, — і паданні Халакоста, несумненна, стануць упоравень з біблейскімі. Для яўрэйства, для чалавецтва наогул. Але сёння жахлівае, што абуджаецца гэтым словам, занадта ад нас яшчэ блізкае. Не ў памяці найдалёкіх патомкаў, а ў яве, поруч жывуць людзі, што зведалі яго катоўні і вогнішчы, — у Ізраілі, дарэчы, нямала колішніх вязняў лагераў знішчэння і гета. Смутак, ім спрычынены, не толькі агульны, рытуальны, а мала не ў кожнага яўрэя і свой, гэтак мовіць, лакальны — па бацьках, загнаных у газавую камеру, па сястры ці браце, расстраляных у Панарах пад Вільняй ці ў Бабіным Яры ў Кіеве.

Страшнае і выдатнае ў Ерусаліме месца — мемарыял Яд ва-Шэм. Мемарыял, які паказвае, што гэта было такое — Халакост. Мемарыял, вядомы цяпер ва ўсім свеце. Нам кінулася, праўда, у вочы, што натворанае гітлераўцамі супраць яўрэяў на абшарах былога СССР адлюстравана ў экспазіцыі слаба. Калі мемарыял узводзіўся, не цяперашняе стаяла ў свеце палітычнае надвор'е. Савецкую афіцыёзную прапаганду ад размоў пра здзейсненае нацызмам супраць яўрэйства курчыла. Масква з большай ахвотай насаліла б установе, што занялася даследаваннем гэтага, чым ёй памагла б. Пагатоў установе ізраільскай.

Але прычыну таго і разумеючы, крыўдна. Як ні выглядаў што пра мінскае гета — нічога не выгледзеў. Ні здымка, ні чыйго ўспаміну, іншага сведчання пра тое, як тут было, якое моцнае і мужнае дзейнічала падполле, якіх адважных байцоў дало яно лясной арміі народных мсціўцаў. Між дрэў з імёнамі "праведнікаў", як называюць у Ізраілі неяўрэяў, якія хавалі-ратавалі ад фашысцкіх вылюдкаў яўрэяў, абышоўшы гэтых дрэў ладна (не ўсе, вядома, — у межах мемарыяла высаджана ўжо тры тысячы зялёных памятак удзячнасці), на шыльдачку з беларускім, рускім імем не натыкнуўся. Ведаю, яны тут ёсць — падалей ад уваходнай брамы, пры маладзейшых, нядаўніх высадках. Ды доўга ж іх трэба шукаць сярод імён з Польшчы, Югаславіі, Галандыі, Бельгіі, Францыі, Германіі.

Дзе сэрца сціснула болем і ў горле закамянела — не прадыхнуць, гэта ў зале памяці загубленых у лагерах смерці і гета дзяцей. У густой чарнаце люстраныя сцэны множаць да безлічы, да мірыядаў россып электрычных агеньчыкаў. Ствараецца ўражанне — светлячкамі-зорачкамі мігцяць непрыкаяныя дзіцячыя душы. Немаўлят, малышоў, падлеткаў. Пастраляных, падушаных газам, утрупянёных эксперыментамі ўрачоў-нелюдзяў. Вымаўляецца імя — зноў і зноў называецца тут да паўмільёна паведамленых ужо мемарыялу імён, — і ў мірыядах зорачак нейкая гасне... У вусцішнай цемені залы я ўключыў дыктафон. Запісаў некалькі хвілін гучання імён. Дома цяпер разоў колькі запісанае слухаў — сэрца, як там было, у Яд ва-Шэме, сціскаецца.

Вядома, мы пастаялі каля Сцяны Плачу. Бязверац, я перад тым, як на запаветнае для іудзейства месца ступіў, пасмяяўся. З гідава напаміну, што ў расколінкі недалому колісь найвелічнага ў Ерусаліме збудавання навалам кладзецца цыдулак-зваротаў да Усемагутнага, прысылаюцца цяпер нават факсам, але адказу на зварот не атрымаў пакуль ніхто. Што ж мяне праняло, як сам да выпетраных глыбаў падышоў? Як прыклаўся рукой да нагрэтых сонцам шэрых камлыг, што гэтулькі за тысячагоддзі пабачылі? Куды, у якое бязмежжа звярнуўся са сваім, што журбой у глыбінях памяці? Чаму не змог утрымацца ад слёз? У храмасомах ускалыхнулася геннае, напамінаючы, хто я ёсць? Тое, што ад продкаў і што пяройдзе патомкам? Пра што пісалі мне, здаралася, у паскудных ананімках?

Узрушаны, агорнуты пачуццём, адначасова зразумелым і не зразумелым, збочыў я там у апартамент пры святыні. Прыўваходнаму ў чорным, натужыўшыся, сваім гаротным ідышам растлумачыў, што хачу апартамент паглядзець, што я з Мінска. Пачуў зычлівы адказ па-англійску — сяк-так я сэнс ухапіў, — што ў іх тут заўсёднікам і адзін масквіч. Падышоў да азызлага старога з барадой Карла Маркса. Седзячы на зэдліку не Марксам нават — Саваофам, той таксама пачаў гаварыць са мной на ідыш. Як у Мінску жывём, ці не галадаем? Увесь яшчэ ў толькі-толькі адчутым, я забыўся з ідыш і што ведаю.

— Па-руску табе лягчэй? — пацвеліўся Саваоф.

— Па-руску, па-беларуску.

— Чаму па-беларуску?

Адказаў, чаму. Пацвельвацца перастаў, перайшоў на "вы". Здзівіўся, што я прыехаў у Ізраіль не назусім. Па-руску ўжо зрабіў ушчуванне. Але неўзабаве вярнуўся да ідыш. Замармытаў пра яўрэйскае братэрства. Я ўлавіў — просіць грошы.

Гледзячы на схіленых над фаліянтамі будучых рабінаў, на мудразнакавае на сценах, ды ў настроі, якім быў агорнуты, ды, як зразумеў з мармытання, на боскае, на храмавае — як можна было не даць? З выбачэннем, што на большае не цягну, даў дзесяць шэкеляў. Саваоф жвава засунуў іх у кішэню.

З апартамента выйшаў, ушалопіў — сабе ж вымантачыў, не богу! У аўтобусе расказаў — немцы, падарожнікі больш бітыя, пасмяяліся:

— Як для бога, дык, вядома, мала, а як яму — замнога!

На зямлі, на зямлі нябесны горад Ерусалім!..

## 5.

Тэма, якую, безумоўна, абмінуць на магу, — ізраільцяне з нашых былых суайчыннікаў. Сваякі, сябры, блізка і няблізка знаёмыя, што жывуць цяпер на берагах Міжземнага і Чырвонага мораў, край пустыні Негеў, у тым самым Ерусаліме, паўсюль у гарадах, гарадках, кібуцных пасёлках краіны.

Божачкі, колькі іх ужо тут! Лічбу не назаву, але што рускую, грузінскую, узбекскую гаворкі, яшчэ якія з тэрытарыяльна раней эсэсэсэраўскіх можна пачуць у Ізраілі скрозь, пераканаўся асабіста. Гучаць з вуснаў яўрэяў і неяўрэяў. Неяўрэі — мала не трэцяя частка люду, што перабраўся сюды з СССР, перабіраецца з СНД. Мітрэнга для рабіната.

Для каго з колішніх нашых гэтая зямля запаветная сапраўды, для каго — на словах, прытым з апрыкралага лексікону. У Драгічыне мо са старажылаў хто памятае Файвеля Клеймана, які перадваенным часам, яшчэ ў Драгічыне ў складзе Польшчы, шчыраваў у адным з гуртаванняў яўрэйскай моладзі. Калі ў верасні трыццаць дзевятага германскія паветраныя і танкавыя армады палерлі на Польшчу, ён кінуўся не на ўсход да савецкай граніцы, як рынула нямала польскага яўрэйства, а праз Румынію, Балгарыю, Грэцыю — сюды ў Палесціну. Тады фактычна калонію Англіі. І з той зародкавай для будучага Ізраіля пары — тут. Са зброяй ахоўваў рэдкія тады яўрэйскія котлішчы ў тутэйшых мясцінах. Пракладваў плугам першыя барозны ў адвеку неаранай, безвільготнай, каменепадобнай глебе. Быў жаўнерам у арміі Андэрса, калі гэты польскі генерал пераправіўся са створанымі ў Савецкім Саюзе польскімі дывізіямі ў Паўночную Афрыку і ўдарыў па ворагах айчыны адсюль. Як адваяваў, вярнуўся ў свой далёкі выглядам ад сённяшняга кібуц Галон. Ажаніўся з навапасяленкай — нядаўняй лагерніцай жудаснага Берген-Бельзена. Паўстагоддзя ўжо цяжка адпрацавалі. Абжылі з гэткімі ж энтузіястамі, як самі, недалёкую ад пякельнага подыху пустыні няўдобіцу. Паставілі на ногі дзяцей. Дачакаліся жаніхоўства ўнукаў. І для Файвеля тое, што Ізраіль ёсць, што займае, дазволю сабе скарыстаць Купалава злетуцененае пра Беларусь, "пачэсны пасад між народамі", — перамога дарагой з юнацтва ідэі, сведчанне нямарнасці пражытага веку.

Іншае — для імігрантаў пазнейшых. Для каго яўрэйская дзяржава — не выпеставанае ў марах, не ўзнятае і адстаянае самімі, а дадзенасць, як шмат іншых. Выбралі сабе гэтую краіну, выбраць маглі не гэтую.

Пераглядаю занатаванае ў блакноце, пераслухоўваю запісанае дыктафонам — і спрачаюцца між сабой, сярдзіта адзін аднаму пярэчаць мае нядаўнія ізраільскія суразмоўнікі.

Экзальтаваная да істэрычнасці настаўніца — такой помніцца з Адэсы, такой убачыў у Тэль-Авіве, — пры сустрэчы была высакамоўнай:

— Вы прыехалі ў цудоўную, дзівосную, казачную краіну!..

Дачка ж прыяцеля, выпускніца Мінскага радыётэхнічнага, у якой па шкале ўладкаванасці ўсё, як гаворыцца, у норме — і працуе па спецыяльнасці, і кватэра, машына ўжо куплены, — досыць кісла паціснула плячмі:

— Ай, дзядзя Валодзя, ну што гэта за краіна! Зразумела, у нашай (!) было лепш, цікавей. Ды ўжо ж перабраліся...

У мінулым мінскі прафесар, доктар навук, які ў Ізраілі больш бізнесмен, чым навуковец, і па справах бізнесу часты наведнік Мінска, не адчувае сантыменту да пакінутага:

— На дзень — два ў вашыя бязладдзе, дурату акунуся — і нясцерп назад. Няма ў мяне настальгіі. Дома я тут!..

Ды афіцыянтка з дыпломам тэхналагічнага інстытута, горка каля нас у рэстаране затрымаўшыся — людзі ж толькі-толькі з яе роднага горада! — з адчаем выкрыкнула:

— Мы падыхаем тут ад настальгіі. Па-дыхаем!..

Скрыпач, мой даўні сябра, што быў у Мінску аўтарытэтным педагогам, але якога не помню ў нас канцэртантам, тут канцэртуе актыўна. З жонкай піяністкай. З аркестрамі. У асветных праграмах. У сюжэтных літаратурна-музычных кампазіцыях, сцэнарыі якіх сам і выстройвае. Запэўніваў:

— Для творчага чалавека ў Ізраілі ўмова адна — будзь ініцыятыўным і не апускай рукі. Маеш гэтыя якасці — не прападзеш. Выявіцца ёсць дзе!..

Калега ж літаратар, вестка пра ад'езд якога з радзімы шчыра мяне здзівіла — у адрыве ад выдавецтваў, часопісаў, газет, з якімі быў звязаны, ад праблем, што займалі яго, як публіцыста і крытыка, чым будзе за мяжой жыць, на што разлічвае? — песімістычнае маё прадчуванне пацвердзіў:

— Нікамусечкі я тут непатрэбен. Ні сам, ні мая пісаніна...

Палярнае разыходжанне меркаванняў. Мантэкі і Капулеці. Расколата ў краіне не толькі грамадства цалкам, што яскрава паказала гібель Рабіна, — свой раскол у гэтай яго частцы, сярод былых савецкіх і постсавецкіх.

Помніцца, у Варшаве, дзе мы былі, я ўжо згадваў, з нагоды пяцідзесятых угодкаў паўстання гета, сэрбрагаловы, з працінальным паглядам ізраільцянін, таксама з колішніх жаўнераў Андэрса, да мяне пры знаёмстве прычапіўся: чаму я, як сказаў ён, на чужыне, а не дома? На дыскусію, што для чалавека дом, што чужына, настрою, ды і часу, не было, — я адмахнуўся: "Стары ўжо, нашто я вам?" Ізраільцянін не адчапіўся: "Вы нам і непатрэбны — патрэбны вашы ўнукі..."

Дзяржава, насельніцтва якой складаецца ў вялікай долі з імігрантаў, — заўсёды плавільны кацёл. Пераплаўляюцца ў адно, зусім знатуралізоўваюцца, сапраўды, не дзеці нават імігрантаў — унукі. Мы бачылі ўнукаў сваякоў і знаёмых, што нарадзіліся ўжо ў Ізраілі. Чэшуць на іўрыце, дзедаву-бабіну родную мову, хоць збольшага разумеюць, не ўжываюць — не свая. Усё дзедава-бабіна — з незразумелага, дзіўнага.

Але самі, хто ў сталасць увайшоў не тут, "уплаўляюцца"" ў новае цяжка. Усё роўна, шчаслівыя эміграцыяй, ці не могуць сабе зробленага дараваць. Глядзяць па тэлебачанні адно праграмы з Масквы, — балазе, яны лёгка прымаюцца. Чытаюць, слаба адолеўшы ці не адолеўшы і слаба іўрыт, толькі рускамоўныя газеты, — тут выдаецца іх многа. Гуртуюцца ў зямляцтвы. Забяспечваюць аншлагі гастралёрам з Расіі. Ствараюць партыі, аб'яднанні, саюзы па абароне сваіх інтарэсаў, што з аднога боку добра, плячом да пляча здужваецца, вядома, болей, ды з другога нядобра — адасабляе пласт грамадзян, процістаўляе іншым. Ну і... сварацца!

— Хіба парадак, што дацэнты працуюць электраманцёрамі, а музыканты дворнікамі? — пачуў я тужлівае ў адным застоллі.

— Колькі ж сімфанічных аркестраў павінен адкрыць маленькі Ізраіль? — заззлаваў, пярэчачы, сусед. — Адзін, другі, трэці маем новыя — яшчэ трэба? А што ў школах паўсюдна ўведзена пасада настаўніка музыкі, каб менш нашых музыкантаў дворнічала, — на гэта колькі грошай паплыло з казны!..

І рацыю маюць абодва.

●

Мы прывезлі з падарожжа касету з папулярнымі ізраільскімі песнямі. Слухаю "Алілую", "Залаты Ерусалім", астатняе — пашчыпвае ў вачах. Сказаць няпроста — чым, а шчымліва-блізкае, сваё.

Па радыё чую Лучанковы "Верасы", Семянякаву "Ты мне вясною прыснілася..." — шчыміць-забірае зноў. Таксама пранізліва блізкае!

Як ва ўнуку зліліся ў адну, не раздзяліць, беларуская і яўрэйская крыві, так ува мне зліліся-пераплявіся беларускія і яўрэйскія болі, радасці, цікавасці, хваляванні. Суіснуюць, адно другое ўзбагачаюць, бывае, між сабой спрачаюцца.

З тым усім было і ўспрыманне мною Ізраіля.

Правільнае, няправільнае — не ведаю. Маё!





**Калектыў рэдакцыі і рэдкалегія часопіса "Тэатральная творчасць" выказваюць глыбокае спачуванне галоўнаму рэдактару Анатолю Вікенцьевічу САБАЛЕЎСКАМУ з прычыны смерці яго маці — Сабіны Станіславаўны.**

**Саюз беларускіх пісьменнікаў выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Васілю САХАРЧУКУ з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці бацькі.**

**Калектыў рэдакцыі часопіса "Полымя" выказвае глыбокае спачуванне супрацоўніцы ЖУКАВАЙ Таісіі Барысаўне з прычыны вялікага гора — смерці мужа.**

**Праўленне Беларускага фонду культуры глыбока смуткуе з прычыны смерці старшыні праўлення Беларускага фонду культуры, народнага пісьменніка Беларусі Івана Гаўрылавіча ЧЫГРЫНАВА і выказвае шчырае спачуванне сям'і, родным і блізкім нябожчыка.**

**Калектыў Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа выказвае глыбокае спачуванне былой супрацоўніцы музея Людміле Прохараўне Чыгрынавай з прычыны заўчаснай смерці мужа — народнага пісьменніка Беларусі Івана ЧЫГРЫНАВА.**

**Калектыў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі смуткуе з прычыны смерці народнага пісьменніка Беларусі ЧЫГРЫНАВА Івана Гаўрылавіча і выказвае спачуванне родным і блізкім.**

